ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КААПЭРАЦЫЯ БССР

ЧАСОПІСЬ БЕЛКААПСАЮЗУ і БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ
ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЁН

СЬНЕЖАНЬ
№ 11-12

МЕНСК 1930

# ЗЬМЕСТ № 11-12

Стар.



## На загатоўчым фронце



## Вынікі нашае чысткі



## Сампрамкаапэрацыя БССР



## Адсталыя галіны працы на грамадзкі буксір



## Літаратурны куток



Галоўлітбел № 3558. Заказ № 652—1200 экз. Друкарня „Палесдрук", Гомель

**Гінзбург**

# Да перавыбараў саветаў

Кампанія перавыбараў саветаў зьяўляецца важнейшай палітычнай кампаніяй. Перавыбары саветаў будуць праходзіць ва ўмовах, калі наша краіна дасягнула вялізарнейшых посьпехаў у сацыялістычным будаўніцтве—індустрыялізацыі краіны і перабудове сельскай гаспадаркі на сацыялістычных пачатках, ва ўмовах разгорнутага сацыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту. Перавыбары саветаў будуць праходзіць пад лёзунгамі: „выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, ажыцьцяўленьня баявых тэмпаў індустрыялізацыі, правядзеньня суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на яе падставе кулацтва як клясы.

Перавыбары саветаў будуць адбывацца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы: кулакі, нэпманы будуць імкнуцца выкарыстаць у сваіх контррэвалюцыйных мэтах у час перавыбараў саветаў нашы цяжкасьці. Яны і іх агенты будуць усімі мерамі дабівацца дыскрэдытаваць мерапрыемствы, якія накіраваны на ажыцьцяўленьне шпаркіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, яны будуць імкнуцца браць пад свой уплыў адсталыя элементы вёскі, дэзарганізаваць працу па правядзеньні кампаніі перавыбараў і правесьці ў саветы сваіх агентаў.

Складанае міжнароднае становішча Савецкага Саюзу, выкрыцьцё шкоднікаў і ў сувязі з гэтым выкрыцьцё з боку міжнароднай буржуазіі плянаў інтэрвэнцыі—усе гэтыя моманты павінны яшчэ больш ператварыць перавыбары саветаў у магутную кампанію важнейшага палітычнага значэньня. Кампанія перавыбараў павінна ўскалыхнуць шырокія рабочыя, калгасныя і бядняцка-серадняцкія масы, яшчэ шчыльней згуртаваць іх вакол генэральнай лініі партыі і мабілізаваць іх актыўнасьць на выкананьне баявых задач нашага сацыялістычнага будаўніцтва, узмацненьня абароназдольнасьці нашай краіны і бязьлітаснай барацьбы супроць кулацкай агентуры ў шэрагах партыі – правага ўхілу, як найбольш небясьпечнага на даным этапе, і ўсялякіх іншых адхіленьняў ад генэральнай лініі партыі.

Выходзячы з тых вялізарных палітычных задач, якія стаяць у час перавыбараў саветаў, неабходна для забесьпячэньня пасьпяховага правядзеньня кампаніі перавыбараў арганізаваць актыўны ўдзел, пад кіраўніцтвам партыйных органаў, усіх грамадзкіх арганізацый.

Спажывецкая кааперацыя, якая аб‘ядная аграмадную большасьць працоўных гарадоў і вёскі, павінна прыняць самы актыўны ўдзел у перавыбарах саветаў для забесьпячэньня актыўнага ўдзелу ў перавыбарах аб‘ядпаемых ёю рабочых, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас. Адначасова сыстэма павінна ў час кампаніі разгарнуць працу па праверцы выкананьня спажывецкай кааперацыяй дырэктыў партыі і ўлады па палепшаньню забесьпячэньня рабочых мас і сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, па мабілізацыі сродкаў насельніцтва і ўнутраных рэсурсаў, поўнаму і своечасоваму выкананьню заданьняў па нарыхтоўках ільну, мяса, гародніны, збожжа і г. д.

Для гэтай мэты неабходна арганізаваць асьвятленьне ролі спажывецкай кааперацыі ў выкананьні прамфінпляну, палепшаньні матар‘яльнага становішча рабочых і калгасна-батрацка-бядняцкіх мас. Асабліва павінны быць праверашы і ў дастатковай меры асьветлены паасобныя мерапрыемствы, як грамадзкае харчаваньне, разгортваньне прыгарадных гаспадарак, арганізацыя зачыненых разьмеркавальнікаў, гаспадарчае і культбытавое абслугоўваньне калгасаў і саўгасаў і г. д.

У чым канкрэтна павінен ажыцьцяўляцца актыўны ўдзел спажывецкай каапэрацыі ў перавыбарах саветаў?

Спажыўсыстэма павінна ў першую чаргу мабілізаваць для актыўнага ўдзелу ў гэтай рабоце каапактыў, праз які павінны быць праведзены ўсе мерапрыемствы па практычнаму ўдзелу.

Павінна быць праведзена дастатковая работа сярод батрацка-бядняцкіх мас пайнікаў для лепшай іх падрыхтоўкі ў барацьбе з падгалоскамі кулацтва на справаздачных і перавыбарчых сходах.

Усе культ-бытавыя ўстановы сыстэмы трэба поўнасьцю скарыстаць для правядзеньня масава-агітацыйнай работы сярод асобных груп пайнікаў для прыцягненьня іх да актыўнага ўдзелу ў перавыбарах. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на правядзеньне масавай работы сярод жанчын, скарыстоўваючы ў гэтых мэтах перасовачныя кансультацыі, ясьлі і г. д. Кампанія перавыбараў саветаў праз сыстэму спажкаапэрацыі (асабліва на вёсцы, дзе яна зьяўляецца адзінай кніга - распаўсюджвальнай арганізацыяй) павінна быць забясьпечана распаўсюджваньнем масава - палітычнай літаратуры, асабліва ў час справаздачных і перавыбарчых сходаў, для гэтага павінен быць забясьпечан адпаведны асартымэнт літаратуры, падрыхтаваны кадры кнігаярош з ліку вучняў школ і г. д.

Кіно-сетка спажывецкай каапэрацыі павінна быць пераключана на абслугоўваньне справаздачна - перавыбарчай кампаніі. Маршруты кіно-перасоўкі павінны быць увязаны з плянамі справаздачна-перавыбарчых сходаў для таго, каб кіно-перасоўкі гэтыя сходы абслугоўвалі, арганізоўваючы дармовыя кіно - пастаноўкі, скарыстоўваючы для гэтай мэты свае сродкі, таксама прыцягваючы сродкі іншых грамадзкіх арганізацый. Гучнагаворачыя ўстаноўкі, каапэрацыйныя радыё-вузлы павінны быць падрыхтаваны для трансляцыйных перадач на перавыбарах саветаў. Вакол гэтых перадач павінна быць арганізавана растлумачальная работа, павінна быць арганізавана групавое слуханьне радыё-перадач. Практыка папярэдніх перавыбараў саветаў паказала, што асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на прыцягненьне жанчын на справаздачна-перавыбарчыя сходы, стварэньне адпаведных умоў, пры якіх жанчына змагла-б наведваць сходы. Спажывецкая сыстэма павінна для гэтай мэты максымальна скарыстаць свае бытавыя ўстановы і правесьці работу па арганізацыі ня менш 10 аднадзённых ясьляй у кожным раёне, якія-б абслугоўвалі дзяцей на час справаздачных і перавыбарчых сходаў.

Сыстэма каапасьветы спажывецкай каапэрацыі павінна быць максымальна скарыстана для арганізацыі і правядзеньня работы на месцах па правядзеньні перавыбараў саветаў, курсантаў трэба скарыстаць для арганізацыі справачнай работы па перавыбарах саветаў у культчайных, сталовых і г. д., на выпуск насьценгазэт, на правядзеньне сходаў, прысьвячаных перавыбарам саветаў.

Работа па ўдзелу ў перавыбарах саветаў павінна стаяць у цэнтры ўвагі ўсёй працы спажкаапэрацыі, яна павінна быць цесна ўвязана з правядзеньнем баявых заданьняў спажсыстэмы па мабілізацыі сродкаў, выкананьню плянаў нарыхтовак, ільнавалакна, мяса, гароднiны і інш.

ЦРК і РСТ павінны адчытацца аб сваёй працы, як выконваюцца дырэктывы партыі і ўлады па палепшаньні рабочага забесьпячэньня, абслугоўваньні сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі і г. д., як выкананы наказ, даны пры апошніх перавыбарах, у часткі, якая датычыцца каапэрацыі. Шырокая пралетарская самакрытыка, якая разгорнецца вакол дзейнасьці саветаў, павінна таксама ўскрываць усе недахопы ў працы спажывецкай каапэрацыі, дапамагчы перабудове працы каапэрацыйных арганізацый і зьнішчыць бюракратызм, непаваротлівасьць у выкананьні спажсыстэмай асноўных задач.

Г. Хаскін

# Аб чарговых задачах спажкаапэрацыі БССР

Вырашаныя задачы, пастаўленыя партыяй перад спажкаапэрацыяй, патрабавалі ў першую чаргу рашучай перабудовы ўсяе сыстэмы спажкаапэрацыі, бо закаранелаcьсь непаваротнасьць і самацёк у працы сыстэмы, неразуменьне таго, што на дадзеным адрэзку часу спажкаапэрацыя павінна праявіць максымум ініцыятывы ў галіне разгортваньня вытворчай дзейнасьці і тым самым быць актыўным удзельнікам у вырашэньні важнейшай задачы—пашырэньня харчовай базы рабочага забесьпячэньня, зьявіліся па сутнасьці справы адным з галоўнейшых тормазаў маруднасьці і нерашучасьці ў правядзеньні гэтай важнейшай дырэктывы партыі.

Таму мы з свайго боку ўсю ўвагу зьвярнулі на перабудову ўсяе работы, пачынаючы ад Белкаапсаюзу і канчаючы нізавым зьвяном.

Трэба падкрэсьліць, што вялікіх вынікаў, на жаль, на сёньняшні дзень мы ня маем.

Асобныя нашы арганізацыі вельмі павольна і нерашуча перабудоўваюцца, толькі пад вялікім націскам ўключаюцца ў вытворчую дзейнасьць, а ў асобных выпадках маюць месца нават супраціўленьне хуткаму ажыцьцяўленьню важнейшых дырэктыў, накіраваных да хутчэйшага і рашучага палепшаньня справы рабочага забесьпячэньня. Гэта кажа аб тым, што правы апартунізм на практыцы мае месца ў шэрагах нашых арганізацый.

Канкрэтна гэта выявілася ў апошні час пры правядзеньні важнейшых дырэктыў партыі аб арганізацыі зачыненых разьмеркавальнікаў пры буйнейшых фабрыках і заводах і пры правядзеньні мерапрыемстваў па палепшаньню абслугоўваньня рабочых чыгуначнікаў і далейшага разгортваньня працы па арганізацыі прыгарадных гаспадарак. Так, напрыклад, Аршанскі ЦРК, замест таго, каб мабілізаваць увагу ўсяе пралетарскай грамадзкасьці для выкананьня дырэктыў па арганізацыі зачыненых разьмеркавальнікаў, тэрміноваму палепшаньню абслугоўваньня рабочых чыгуначнікаў шляхам адчыненьня ў іх сталовак для нармальнага харчаваньня рабочых, выдачы дадатковага пайку паязным і кандуктарскім брыгадам, марынаваў дырэктывы Белкаапсаюзу па гэтым пытаньні. Нават пасьля таго, калі Белкаапсаюз выслаў спэцыяльнага інструктара для праверкі выкнаньня гэтых дырэктыў, якія на месцы былі неажыцьцёўлены, замест таго, каб зараз жа правесьці іх, праявіў поўнае супраціўленьне, і прадстаўніку Белкаапсаюзу прышлося з вялікімі патугамі ажыцьцявіць цэлы шэраг мерапрыемстваў.

Бабруйскі ЦРК у галіне пашырэньня плошчы прыгарадных гаспадарак і прыняцьця ўсіх неабходных захадаў да поўнага адводу зямель заняўся гутаркамі аб немагчымасьці выкананьня паказанай Белкаапсаюзам плошчы пад гародныя культуры. Дырэктыву Белкаапсаюзу, аснованую на рашэньні ЦК партыі аб тэрміновым палепшаньні забесьпячэньня чыгуначнікаў, Бабруйскі ЦРК не абгаварваў на праўленьні. Ніякай праверкі аб сапраўдным становішчы забесьпячэньня чыгуначнікаў ня было зроблена, і толькі пасьля выезду прадстаўніка Белкаапсаюзу пачалі ажыцьцяўляцца гэтыя дырэктывы.

Гомельскі ЦРК ня выканаў важнейшай дырэктывы па здавальненьню рабочых плодагароднінай. Замест таго, каб мабілізаваць усе сілы на выкананьне праграмы заданьняў па квашаньню капусты, засолцы гуркоў, загатоўцы бульбы і інш., Гомельскі ЦРК абме-

жаваўся падпісаньнем умовы з Садсаюзам на поўную колькасьць гэтай прадукцыі, сам жа за гэту справу ня ўзяўся.

Тое самае мы наглядаем і ў галіне арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў. Павольна, без праяўленьня якой-бы та ні было ініцыятывы і мабілізацыі мас вакол гэтае справы, ажыцьцяўляецца важнейшая дырэктыва, накіраваная да сапраўднага палепшаньня і першачарговага забесьпячэньня рабочае клясы. Выявіліся відавочнае нежаданьне прадаставіць пад зачыненыя разьмеркавацелі лепшыя магазыны (Менск, Ворша, Гомель), неправядзеньне спэцыяльнай падрыхтоўчай работы, нежаданьне перакінуць у зачыненыя разьмеркавацелі найлепшых і адданых працаўнікоў прылаўку і г. д.

Асноўныя задачы, якія стаяць і якія павінны быць з усёй рашучасьцю вырашаны ўсёй сыстэмай спажкаапэрацыі, наступныя:

Максымальна пашырыць вытворчую дзейнасьць спажкаапэрацыі, асабліва па лініі разгортваньня прыгарадных гаспадарак, малочных фэрм, сьвінаадкормачных пунктаў і г. д. згодна кантрольных лічбаў; давесьці плошчу прыгарадных гаспадарак гарадоў БССР да 25.000 га.; пашырыць малочнае стада да 12.000 галоў, адкарміць на працягу году 54.000 сьвіней, а таксама разьвіць птушкаводныя і трусаводныя гаспадаркі.

Ажыцьцяўленьне ўсіх гэтых задач у значнай меры пашырае ўжо харчовую базу забесьпячэньня рабочых мас. Так, напрыклад, забесьпячэньне рабочых гароднінай у 1931 годзе можа быць даведзена да 63 проц. задавальненьня рабочых мас у гэтай прадукцыі з сваіх уласных гаспадарак. Тое самое мы маем і з забесьпячэньнем малаком. Забесьпячэньне малаком з сваіх уласных малочных фэрм на працягу 1931 году можа быць ужо задаволена на 50 проц. патрэбнасьці рабочых у малацэ. Нават такімі прадуктамі, як мяса і сала, можа быць задаволена забесьпячэньне на 38,4 проц.

Адгэтуль зусім відавочна, якое вялізарнейшае значэньне мае выкананьне праграмы, вызначанае кантрольнымі лічбамі ў галіне пашырэньня прыгарадных гаспадарак, малочных фэрм, адкормачных апэрацый, а таксама сапраўднае ўзмацненьне масавага рабочага кантролю над ажыцьцяўленьнем гэтых мерапрыемстваў. Ня можа быць ніякіх гутарак аб невыкананьні гэтых задач. Кожны ЦРК павінен, што-б там ні было, ажыцьцявіць гэтыя задачы. Прафсаюзы, уся пралетарская грамадзкасьць павінны максымальна дапамагчы ЦРК ў ажыцьцяўленьні гэтых вялікіх задач. На жаль, на справе мы яшчэ сёньня ня маем дастатковай дапамогі з боку прафсаюзаў і асобных гаспадарчых арганізацый. Трэба дамагчыся такога становішча, пры якім да кожнай фабрыкі і заводу прымацоўваліся-б асобныя гаспадаркі ЦРК з тым разьлікам, каб рабочыя гэтых фабрык і заводаў прыймалі актыўны ўдзел у ажыцьцяўленьні гэтых мерапрыемстваў.

Побач з гэтым неабходна адзначыць, што ход адводу зямель зьяўляецца абсалютна нездавальняючым. Замест таго, каб на 15 кастрычніка меець цалкам адведзеных 25.000 га зямлі, мы на 1 лістапада маем усяго 15.000 га. Вакол гэтага пытаньня не мабілізавана ўвага мас.

Гарсаветы і асобныя РВК ня выканалі дырэктыў ураду ў гэтай галіне, а ЦРК недапушчальна „благодушничают“, заспакойваючы сябе агульнымі матывамі—бачыце Гарсавет і РВК не адводзяць зямлі, а самі катэгарычных, рашучых мер ня прыймаюць.

Другая задача заключаецца ў тым, каб цалкам забясьпечыць рабочых і служачых гароднінай, адсюль—заданьне на квашаньне капусты, засолку і марынаваньне грыбоў, загатоўку бульбы, буракоў, гатаваньне павідлаі г. д. павінна быць выканана. На сёньняшні дзень у цэлым шэрагу ЦРК (Менскім, Віцебскім, Гомельскім і інш.) ход выкананьня гэтага заданьня не забясьпечвае цалкам выкананьня пляну. Таму ўвесь удар павінен быць накіраваны ў гэты бок. Трэба прыцягваць да суровай адказнасьці тыя ЦРК, якія і мінімальна ня выконваюць зацьверджаных заданьняў па гэтых прадуктах. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на якасьць

і хаваньне гэтай прадукцыі. Трэба сказаць, што з пабудовай гароднінахавальняў ня ўсе ЦРК справіліся. Віцебскі ЦРК ня прыняў рашучых захадаў да сваячасовага сканчэньня гароднінахавальняў, з прычыны чаго на 40 проц. будаўніцтва гэтых хавальняў ім ня скончана.

Трэцяя задача—гэта разгортваньне грамадзкага харчаваньня. Трэба сказаць, што за апошні час сетка сталовак значна пашырылася. Некаторае паляпшэньне наглядаецца ў фабрычных сталоўках і сталоўках на чыгунках. Аднак, становішча ў справе грамадзкага харчаваньня працягвае заставацца цяжкім. Нашы мерапрыемствы ў гэтай галіне накіраваны цяпер у бок вылучэньня спэцыяльных фондаў для нармальнага забесьпячэньня прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня, забесьпячэньня грамадзкім харчаваньнем усіх зьмен рабочых на фабрыках і заводах, чыгуначных вузлоў (з круглясутачнай працай), праязных брыгад і значнага пашырэньня ахопу грамадзкім харчаваньнем усіх працоўных.

На 1931 год водпуск абедаў павялічваецца з 36 міл. у канцы 1930 году да 90 міл. на працягу 1931 году з тым, каб на працягу году ахапіць ня менш 80 проц. рабочых гарадоў сьпіску № 2 грамадзкім харчаваньнем, рабочых астатніх гарадоў—ня менш чым на 60 проц. і ўсё працоўнае насельніцтва—ня менш чым на 55 проц. Аднэй з галоўных задач у гэтым пытаньні зьяўляецца хуткае і рашучае палепшаньне якасьці абедаў.

Чацьвёртая задача—гэта рашучае палепшаньне сыстэмы разьмеркаваньня як дэфіцытных прадуктаў харчаваньня, так і дэфіцытных тавараў; палепшаньне самой сыстэмы забясьпечыць першачарговыя патрэбы рабочых асноўных прадпрыемстваў Беларусі. У цяперашні час сама сыстэма разьмеркаваньня ўжо зьмяняецца: пры асноўных буйных фабрыках і заводах арганізуюцца зачыненыя разьмеркавацелі, і самі пляны забесьпячэньня будуюцца такім чынам, каб прадукты харчаваньня і прамтавары накіроўваліся на гэтыя важнейшыя вучасткі. Трэба сказаць, што да гэтага часу разьмеркаваньне тавараў з баз па магазынах праводзілася бяз вучоту колькасьці прымацаваных да магазынаў пайнікаў, у выніку чаго атрымліваліся ў адных магазынах лішак тавараў, а у другіх—недастача, што адбівалася на правільным забесьпячэньні рабочых і на хуткасьці таваразвароту. Цяпер на цэлы шэраг тавараў сыстэма талёнаў адмяняецца, за выключэньнем гатовага адзеньня і абутку. Зразумела, што першачарговасьць забеспячэньня рабочых павінна быць у далейшым цалкам захавана, аднак неабходна дамагчыся такога становішча, пры якім выдача талёнаў на абутак і гатовае адзеньне была-б абмежавана пэўнымі тэрмінамі. Апрача таго, пры разьмеркаваньні тавараў як па зачыненых разьмеркавацелях, так і па агульных магазынах павінна ўлічвацца ў першую чаргу колькасьць рабочых, абслугоўваемых данымі магазынамі, забясьпечваючы гэтых рабочых у першую чаргу і астатніх служачых і працоўных па паявых кніжках. Нельга таксама дапускаць і таго, каб у зачыненых разьмеркавацелях у працягу доўгага часу ляжалі тавары нерэалізаванымі; у такіх выпадках неабходна гэтыя тавары перакідаць з зачыненых разьмеркавацеляў у агульныя магазыны.

У гэтай справе трэба праявіць гнуткасьць, выразнасьць клясавае лініі, манэўраваньне і асабліва строгі кантроль за разьмеркаваньнем.

Аднэй з першачарговых задач павінна зьяўляцца максымальнае ўмацаваньне пралетарскімі кадрамі кааперацыйных арганізацый. Закаранеласьць, бюракратызацыя апарату, нячулыя адносіны да спажыўца, а іншы раз і зьдзекі маюць месца ва ўсіх зьвеньнях сыстэмы спажкаапэрацыі, а таму трэба ў далейшым рашуча змагацца за палепшаньне якасьці рабочага апарату, за чулыя адносіны да спажыўца, за выдаленьне з апарату ўсіх бюракратычных і чыноўніцкіх элемэнтаў.

Правадзімыя мерапрыемствы павінны ў бліжэйшы час даць відавочны зрух у бок палепшаньня забесьпячэньня рабочае клясы.

Спажкаапэрацыя БССР на 1931 год робіць шэраг капітальных укладаньняў у прыгарадныя гаспадаркі, хлебапячэньне, грамадзкае харчаваньне і г. д. на суму 37 міл. рублёў. Бязумоўна, для ажыцьцяўленьня ўсіх гэтых буйнейшых задач патрабуецца вялікая дапамога з боку ўсіх мясцовых, партыйных, савецкіх і прафэсіянальных арганізацый і ўсяе нашай пралетарскай грамадзкасьці.

Спажкаапэрацыя праводзіць цяпер дзень агляду. Задачай яго ў асноўным зьяўляецца праверка выкананьня спажкаапэрацыяй важнейшых дырэктыў партыі па палепшаньні забесьпячэньня рабочае клясы і мабілізацыі вакол гэтай праверкі шырокіх мас, што павінна даць рашучы паварот у бок сапраўднага палепшаньня ўсяе працы спажкаапэрацыі. Трэба дамагчыся таго, каб гэты дзень агляду спажкаапэрацыі зьявіўся пераломным момантам у справе сапраўднага ўзмацненьня клясавага рабочага кантролю над працай спажкаапэрацыі. Трэба сказаць, што арганізаваныя штабы пры газэце „Рабочий“ па пытаньні мабілізацыі пралетарскай грамадзкасьці вакол плодагародніннай кампаніі і грамадзкага харчаваньня вельмі дапамаглі ў працы спажкаапэрацыі, а асабліва МЦРК, бо здолелі мабілізаваць вакол гэтых задач усю пралетарскую грамадзкасьць гораду Менску. Дзякуючы актыўнай дапамозе гэтага штабу, яго рабочых брыгад, удалося зламаць цэлы шэраг супраціўленьняў як у самым апараце ЦРК, так і з боку асобных арганізацый, не жадаўшыхісьці насустрач ЦРК. Мне здаецца, што такія штабы павінны быць арганізаваны па прыкладу газэты „Рабочий“ і ў другіх гарадох: Бабруйску, Гомелі, Віцебску.

Трэба спадзявацца, што задачы, пастаўленыя партыяй перад спажкаапэрацыяй, будуць цалкам праведзены ў жыцьцё, і тыя буйнейшыя недахопы і прарывы, якія маюць цяпер месца ў працы асобных арганізацый, будуць у бліжэйшы тэрмін зьнішчаны пры далейшай рашучай барацьбе з тымі, хто тармозіць працу і бюракратычна адносіцца да ажыцьцяўленьня гэтых дырэктыў.

---

Б. Памеранец

## Пра капітальнае будаўніцтва спажсыстэмы Беларусі 1929/30 году

Агульны рост народнае гаспадаркі БССР і новыя задачы, пастаўленыя перад спажкаапэрацыяй, абавязваюць сыстэму спажкаапэрацыі перайсьці на новы мэтад работы, заняцца вытворчай дзейнасьцю. Капітальнае будаўніцтва спажкаапэрацыі набывае асаблівае значэньне, і яно настолькі пашырылася як у колькасным, так і ў якасным сэнсе, што займае ўжо выдатнае месца ў сыстэме.

Калі сума ўкладаньняў у капітальнае будаўніцтва ўсяе сыстэмы спажкаапэрацыі Беларусі за 1927/28 год складала 500 тыс. руб., дык плян будаўніцтва 1928/29 выканан на суму 2 міл. рублёў (у круглых лічбах), а плян і аб'ём будаўніцтва 1929/30 году, разам з будаўніцтвам прыгарадных гаспадарак, у 3-4 разы больш, чым у мінулыя гады, што складае да $6^1/_2$ міл. рублёў. З кожным годам будаўніцтва ўзрастае. Адзін толькі плян будаўніцтва асобнага кварталу 1930 году складае больш 5 міл. руб. Кантрольныя лічбы будаўніцтва на 1931 год ужо складаюць 37 міл. руб. Гэта ўсё сьведчыць аб гіганцкім росьце будаўніцтва.

Адначасова трэба спыніцца на якасьці ў росьце будаўніцтва.

Калі сыстэма спажкаапэрацыі ў мінулыя гады займалася будаўніцтвам дробных аб'ектаў, як склады, сталоўкі на 200 абедаў, дык цяпер яна ўтварае будаўніцтва буйных аб'ектаў: фабрыкі-кухні на 30.000 абедаў, кухняў-разьмеркавацеляў, буйных сталовак,

хлебазаводаў, будаўніцтва прыгарадных гаспадарак, малочных фэрм, сьвінарнікаў, гародніна-хавальняў і г. д. У далейшым вызначаецца пабудаваць цэлы шэраг заводаў для перапрацоўкі гародніны.

Вось характэрныя лічбы будаўніцтва спажкаапэрацыі ў 1930 годзе:

| | Па гарадзкому сэктару | Па вясковаму сэктару |
|---|---|---|
| На пабудову хлебазаводаў | 610 т. р. | 250 т. р. |
| „ „ хлебапякарняў | — | — |
| „ аб'екты грамадзкага харчаваньня | 1 млн. 65 т. р. | 375 т. р. |
| „ гародніна-хавальні | 475 т. р. | — |
| „ склады і крамы | 330 „ „ | 780 т. р. |

Апрача таго, было адпушчана 2 міл. 265 тысяч рублёў на прыгарадныя гаспадаркі, з іх 400 тысяч на сьвінагаспадарку. Будаўніцтва малочных фэрм і сьвінарнікаў распачалося са значным спазьненьнем. У кантрольныя лічбы 1929-30 году гэтае будаўніцтва ня было ўключана, і толькі ў красавіку 1930 году ЭКАНАБел пастанавіла, што спажкаапэрацыя павінна распачаць будаўніцтва прыгарадных гаспадарак, выдаткаваўшы на гэтую справу вышэйпаказаную суму сродкаў.

Пабудова малочных фэрм павінна была быць зроблена ў 5 пунктах з агульным лікам 4.500 адзінак. Фактычна-ж хлявы будуюцца ў 13 пунктах, разьлічаныя на 5.850 галоў. На 1 лістапада было хлявоў на 2400 кароў, а астатнія ў працэсе работы. Работа пачалася стыхійна, без генэральных плянаў. Асобным тормазам у будаўніцтве кароўнікаў і сьвінарнікаў зьяўляецца, галоўным чынам, адсутнасьць будаўнічых матар'ялаў, як пілаванага лесу, круглага, цьвікоў, гонтаў. Адчуваўся вялікі недахоп у рабочай сіле, асабліва ў цесьлярох.

З усяго вышэйпаданага відаць, якое вялікае значэньне мае капітальнае будаўніцтва спажкаапэрацыі, і якую вялікую ўвагу ёй трэба ўдзяліць. У нас, на вялікі жаль, пытаньню будаўніцтва спажкаапэрацыі не ўдзялялі і не ўдзяляюць тае ўвагі, якая павінна быць удзелена з боку работнікаў каапэрацыі і рэгулюючых органаў.

Большасьць каапэрацыйных работнікаў усё яшчэ глядзяць на будаўніцтва, як на нешта дадатковае. Яны не разумеюць таго, што вытворчасьць зьяўляецца асноваю спажкаапэрацыі, што спажкаапэрацыя павінна ня толькі гандляваць, але і вырабляць, перапрацоўваць неабходнае для гэтага гандлю. У гэтай галіне трэба ствараць рашучы пералом.

Досыць ілюстраваць той факт, што яшчэ пяць месяцаў таму назад будаўнічы аддзел БКС, штаб кіраўніцтва будаўніцтва ўсяе сыстэмы меў аднаго тэхніка, які займаў пасаду і тэхніка і інжынэра. Нават і цяпер у апараце сэктару няма ніводнага інжынэра.

Куды горш абстаіць справа на месцох. У большасьці райспажтаварыстваў і ў некаторых цэрабкоопах няма ніводнага чалавека, які мог-бы кіраваць і займацца будаўніцтвам. У выніку будуюць часова, ня плянава, пасаматужнаму, доўга і дорага, без падліку выдаткаваных матар'ялаў і г. д.

Як жа адносіцца да будаўніцтва спажкаапэрацыі Наркамгандлю і Дзяржплян БССР?

Спажкаапэрацыя прымацавана да Наркамгандлю. Дзяржплян вылучае будаўнічы матар'ял Наркамгандлю, апошні павінен улічваць і спажкаапэрацыю пры разьмеркаваньні. Паколькі ў першую чаргу матар'ял адпускаецца на прамысловае будаўніцтва, каапэрацыя, ня гледзячы на важнае значэньне будаўніцтва, атрымлівае ўсяго 10-15% патрэбнасьці будаўнічых матар'ялах, а некаторых матар'ялаў, як 2-таўровых бэлькаў і палоснага жалеза для нашых хлебазаводаў, зусім не атрымала.

Дзякуючы такім адносінам зрывалася праца пабудовы хлебазаводаў у

Барысаве і Полацку. Таксама знаходзіцца на мёртвым пункце пабудова фабрыкі-кухні ў Менску. У цэлым шэрагу прыгарадных гаспадарак, дзе не хапае лесу, цьвікоў, справа таксама затрымліваецца.

Паглядзім, як адносіцца Наркамгандлю Бел. да будаўніцтва каапэрацыі? Вось факт: у кастрычніку 1930 году на спэцыяльнай нарадзе ў Дзяржпляне па сыстэме спажкаапэрацыі, і якія мерапрыемствы трэба ўжыць для таго, каб паставіць будаўніцтва на належную вышыню?

Асноўнае ў тым, што няма належнага кіраўніцтва сыстэмай у пытаньнях будаўніцтва, з прычыны чаго будаўніцтва ўтвараецца стыхійна, асабліва ў райспажтаварыствах.



Дом агнятрывалага будаўніцтва ў камуне „Праца".

разьмяркоўвалі гонты. Кожная арганізацыя падала свае заяўкі на гонты. Наркамгандлю падаў сваю заяўку на 16.000 коп, у той час як спажкаапэрацыі патрэбна было да 80.000 коп; спажкаапэрацыяй было апратэставана патрабаваньне такой невялікай лічбы; нарада прыняла гэта да ведама і адпусьціла 85.000 коп, але нам з гэтае лічбы адпусьцілі 45.000 коп. Саюзлес на палову зьменшыў лік за недахопам гонтаў, і ў выніку мы нічога не атрымалі.

Вось яшчэ факт: 10 лістапада НКГБ паведаміў, што з атрыманага ім фонду ад Дзяржпляну адпускаецца для спажкаапэрацыі 100 тон жалеза для фабрыкі-кухні і хлебазаводаў, але праз тры дні чамусьці адпускае толькі 40 тон.

Што-ж не дае магчымасьці правільна і рацыянальна праводзіць будаўніцтва

У ЦРК і, асабліва ў раёнах, няма таго кадру, які патрэбен для кіраўніцтва будаўніцтвам, а таксама няма ў раёнах такой будаўнічай арганізацыі, якая-б узяла на сябе абавязак правядзеньня неабходнага будаўніцтва для раёнаў. Тут прыходзіцца будаваць гаспадарчым спосабам, без тэхнічнай сілы. Зразумела, што пры такім становішчы спажкаапэрацыя траціць свой вытворчы твар.

Адным з асноўных недахопаў у нашым будаўніцтве зьяўляецца незабясьпечанасьць дэфіцытнымі будаўнічымі матар'яламі. Варта зазначыць толькі, што нам адпушчана на будаўніцтва ў асобным квартале гэтага году пілаванага лесу 9 проц., круглага лесу 11 проц. Цьвікоў нам патрэбна толькі ў асобным квартале 69 тон, а адпусьцілі—4.

Трэба зазначыць, што наша сетка амаль ва ўсіх раёнах мае вялікія магчымасьці заняцца вытворчасьцю будаўнічых матар'ялаў, як гонтаў, чарапіцы, цэглы і г. д., а яна гэтага ня робіць. Зусім ненармальна, калі забясьпечаньне цэглаю раёнаў адбываецца з гарадзкіх заводаў, у той час, калі можна было-б карыстацца ўласнымі вырабамі на месцы. Гэта ліквідуе недахопы і зробіць таньнейшым будаўніцтва.

Для зьнішчэньня цэлага шэрагу недахопаў трэба зрабіць значныя зьмены ў працы. Кіраўніцтва сыстэмаю ў пытаньнях будаўніцтва неабходна ўкамплектаваць адпаведным штатам, узмацніць кантроль шляхам частых выездаў.

У галіне вытворчасьці трэба распрацаваць цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія-б абавязвалі выкананьне ўсіх дырэктыў да пераходу на вытворчую дзейнасьць.

Для таго, каб даць магчымасьць цэрабкоопам і, асабліва РайСТ, плянава правесьці будаўніцтва са зьніжэньнем сабекаштоўнасьці, рацыяналізаваць яго, трэба арганізаваць пры ўсіх ЦРК і буйных РайСТ будаўнічыя аддзелы, ужыўшы захады да адпаведнага ўкамплектаваньня іх тэхнічнымі кадрамі шляхам падрыхтоўкі. Трэба дамагчыся ўрадовай дырэктывы, якая-б абавязвала будаўнічыя арганізацыі НКЗ і іншыя ўзяць на сябе выкананьне будаўніцтва раённай спажкаапэрацыі. З прычыны таго, што будаўніцтва спажкаапэрацыі зрываецца, галоўным чынам, з-за адсутнасьці будаўнічых матар'ялаў, у той час калі сыстэма спажкаапэрацыі, згодна заданьняў партыі і ураду, разгортвае вялізарную сетку прыгарадных гаспадарак, у якіх выдатнае месца займае жывёлагадоўчы сэктар, трэба рэарганізаваць будаўнічы сэктар у „будаўнічае аб'яднаньне“, якое павінна выконваць усе аб'екты па капітальнаму будаўніцтву каапэрацыі ў гарадох.

Неабходна дамагчыся ўрадовае пастановы, якая-б абавязвала рэгулюючыя і снабжэнчаскія арганізацыі забясьпечваць будаўніцтва спажкаапэрацыі дэфіцытнымі будаўнічымі матар'яламі нароўні з дзяржаўнымі прамысловымі прадпрыемствамі.

---

**Бічэўскі**

## За лепшае абслугоўваньне чыгуначнікаў

У выкананьне пастановы ЦК УсеКП(б) ад 10-IX 1930 году аб абслугоўваньні чыгуначнікаў і грузчыкаў грамадзкім харчаваньнем, у зьвязку з асеньня-зімнімі перавозкамі, неабходна адзначыць, што наглядаецца некаторы зрух (праўда, са спазьненьнем) у паасобных ЦРК, як, напрыклад, Менскім, Магілеўскім, Гомельскім, Аршанскім, Віцебскім і Жлобінскім. Найбольш адсталымі зьяўляюцца Калінкавічы, Асіповічы, Барысаў, Полацак, бо ў гэтых пунктах абслугоўваньне чыгуначнікаў праводзіцца выключна праз ст. буфэты. Недаацэнка гэтага пытаньня адміністрацыяй чыгунак, а таксама нежаданьне ЦРК паставіць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб пабудове асобных памяшканьняў згубна адбіваюцца на сёньня на абслугоўваньні чыгуначнікаў і грузчыкаў.

Мы лічым, што яшчэ наогул па ўсіх пунктах недастаткова арганізавана абслугоўваньне чыгуначнікаў і грузчыкаў грамадзкім харчаваньнем, бо абслугоўваньне чыгуначнікаў праз станцыйныя буфэты ня можа даць належнага задавальненьня ў абслугоўваньні і перашкаджае абслугоўваньню пасажырскага руху.

Усё гэта настойліва патрабуе як ад ЦРК, так і ад адміністрацыі чыгунак безадкладнага правядзеньня ў жыцьцё пастановы, дадзенай работнікамі БКС: дабудаваць дадатковыя

падсобныя памяшканьні, а таксама пабудаваць сталоўкі ў Менску (дадаткова), Негарэлым, Барысаве, Полацку, Бігосаве, Калінкавічах, Асіповічах, Бярэзіне, Бабруйску.

Акрамя таго, з боку ўсіх ЦРК прыняты недастатковыя меры як для забесьпячэньня сталовак лепшымі работнікамі, так і ліквідаваньня чаргі ў часе абеду і забесьпячэньня прадуктамі і гароднінай гэтых сталовак, што не павінна мець месца. У самы хуткі тэрмін неабходна выправіць усе гэтыя недахопы.



Галоўны корпус Асінстану.

С. Лодысеў

# Спажывецкая і сельскагаспадарчая каапэрацыя БССР у 1931 г.

Рабочая кляса Беларусі, пад непасрэдным бальшавіцкім кіраўніцтвам камуністычнае партыі, за мінулы гаспадарчы год дасягнула вялізарнейшых посьпехаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя посьпехі пацьвярджаюць бясспрэчную магчымасьць выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, а па некаторых галінах і ў карацейшы тэрмін.

Дзякуючы пасьпяховаму папярэдняму народна-гаспадарчаму разьвіцьцю і рашучаму павароту бядняцка-серадняцкіх мас вёскі да калектывізацыі, у 1929-30 г. былі дасягнуты значныя посьпехі ў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі БССР. Роля сацыялістычнага сэктару павялічылася з 5,5 проц. у пачатку 1929-30 г. да 18 проц. пад канец другога году пяцігодкі, у той час як пяцігадовым плянам было намечана такое павялічэньне пад канец 32-33— апошняга году пяцігодкі.

Пасьпяховае разьвіцьцё працэсу аграмаджаньня ў сельскай гаспадарцы абумовіла пераход да ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнае калектывізацыі.

Дасягнуты ўзровень народнае гаспадаркі, узросшая вытворчая актыўнасьць рабочае клясы, якая знайшла свой адбітак у разгортваньні сацыялістычнага спаборніцтва і яго ўздыме на вышэйшую ступень, далі рэальную магчымасьць праектаваць на 1931 г. далейшае падвышэньне тэмпаў росту народнае гаспадаркі па шляху сацыялістычнай індустрыі і сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Важнейшыя задачы, якія павінны быць вырашаны ў 1931 г. Саветам народных камісараў БССР, наступныя: далейшы ўздым сацыялістычнага сэктару ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі, далейшае сацыялістычнае наступленьне па ўсім фронце, рашучае выцісканьне капіталістычных элемэнтаў і ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнае калектывізацыі, палепшаньне ўмоў забесьпячэньня і дабрабыту рабочае клясы, значны пералом па ўсіх групах якасных паказальнікаў на базе сацыялістычнай рэканструкцыі, рацыяналізацыя і максымальнае скарыстаньне працоўнага ўздыму рабочае клясы, вырашэньне праблемы кадраў і разгортваньне мерапрыемстваў па арганізацыі працы і па поўнаму ажыцьцяўленьню пастаноў аб усеагульным навучаньні і ліквідацыі няпісьменнасьці.

Выкананьне гэтых задач трэцяга году пяцігодкі патрабуе напружанай работы ўсяе пралетарскай грамадзкасьці, гаспадарчых органаў, прафэсіянальных арганізацый і далейшага разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, як асноўных фактараў выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

Выходзячы з гэтага, Савет народных камісараў прыняў у галіне забесьпячэньня і абмену наступныя заданьні на 1931 гаспадарчы год па прыгарадных гаспадарках спажывецкай каапэрацыі:

| | На 1/I-32 г. | | На 1/I-31 г. |
|---|---|---|---|
| Гароды | 5.600 га | замест | 800 га |
| Малочныя фэрмы | 12.600 кароў | „ | 7830 кароў |
| Сьвінаматак | 9.100 галоў | „ | 3682 галоў |
| Адкорм сьвіней | 12.000 месц | „ | 7536 месц |
| Парнікі | 54.000 рам | „ | 1750 рам |
| Садова-ягады | 1.100 га | „ | — |

Адначасова з гэтым прызнана патрэбным пашырыць сетку зачыненых разьмеркаваццеляў настолькі, каб імі былі ахоплены ўсе рабочыя найбольш буйных прамысловых прадпрыемстваў.

Па грамадзкаму харчаваньню прыняты наступныя паказальнікі:

абедаў: у горадзе . . 89,0 млн.
у вёсцы . . . 64,8 млн.
замест 16 млн. у 1929-30 г.

СНК БССР прыняў да ведама, што пры паказаных лічбаў ахоп рабочых грамадзкім харчаваньнем да канца году будзе на 80 проц.

Прырост паянакапленьня па сыстэме спажывецкай каапэрацыі на 1931 г. прыняты ў 16 млн. руб., у тым ліку: па гораду—3,5 млн. руб. і па вёсцы—12,5 млн. руб.

Па каапэраваньню прыняты наступныя кантрольныя лічбы:

| | | На 1/I-32 г. | На 1/I-31 г. |
|---|---|---|---|
| Агульнае | | 2133,6 т. ч. | 1594,8 т. ч. |
| У т. л.: | горад | 428,6 „ „ | 359,8 „ „ |
| | вёска | 2010 „ „ | 1285 „ „ |

Капітальныя укладаньні на 1931 г. у гандлёвае будаўніцтва вызначаны ў суме 96.815 тыс. руб.

Падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў розных кваліфікацый праз курсы і інш. па сыстэме спажывецкай каапэрацыі СНК БССР зацьвердзіў у колькасьці 13 тыс. асоб.

У галіне фінансаў СНК БССР запраектаваў плян сыстэмы сельскагаспадарчага крэдыту на 1931 год па сельскагаспадарчай каапэрацыі ў суме 9,5 млн. руб. і спажывецкай каапэрацыі ў суме 2,4 млн. руб.

Заданьні для паянакапленьня ў каапэрацыйных сыстэмах устаноўлены ў наступных разьмерах:

а) спажывецкая каапэрацыя:

| | |
|---|---|
| паі і ўступныя ўзносы | 16,4 млн. руб. |
| уклады і мэтавыя ўзносы | 3,8 „ „ |

б) сельскагаспадарчая каапэрацыя:

| | |
|---|---|
| паі і ўступныя ўзносы | 7,5 млн. руб. |
| уклады і мэтавыя ўзносы | 1,7 „ „ |

правядзеньня разьмеркаваньня прадуктаў і тавараў па клясаваму прынцыпу.

СНК БССР адзначыў, што асноўнымі задачамі спажывецкай каапэрацыі на 1931 г. павінны зьяўляцца:

а) поўнае выкананьне ўсіх вызначаных лімітаў па разгортваньню прыгарадных гаспадарак;



Асінстан. Жалезная эстакада, па якой падаецца торф у галоўны корпус.

Аб'ём фінансаваньня мерапрыемстваў саюзнага значэньня на тэрыторыі БССР вызначаны ў наступных разьмерах за кошт саюзнага бюджэту:

| | За кошт саюзнага бюджэту | За кошт сродкаў саюзн. прам. |
|---|---|---|
| Сельскагаспадарчая каапэрацыя | 2,1 млн. р. | — |
| Спажывецкая каапэрацыя | 0,5 „ „ | 9,2 млн. руб. |

Для забесьпячэньня выкананьня кантрольных лічбаў на 1931 г. СНК БССР даў наступныя дырэктывы.

У галіне забесьпячэньня—рабочыя павінны быць забясьпечаны лепш таварамі за кошт росту агульнага кантынгенту забесьпячэньня і

б) максымальнае прыцягненьне рабочых да справы рабочага забесьпячэньня і грамадзкага харчаваньня;

в) забесьпячэньне эфэктыўнасьці гэтых прадпрыемстваў;

г) палепшаньне якасьці абслугоўваньня і ліквідацыі чаргі;

д) значнае палепшаньне якасьці грамадзкага харчаваньня;

е) поўнае выкананьне заданьняў па паянакапленьню і каапэраваньню.

Спажывецкай каапэрацыі даручана зьвярнуць асаблівую ўвагу на разгортваньне сыстэмы зачыненых разьмеркавацеляў і дамагчыся значнага палепшаньня іх працы, забясьпечыўшы кантроль рабочых у справе разьмеркаваньня тавараў і арганізацыі работы зачыненых разьмеркавацеляў.

# Праверым выкананьне калдагавароў

Кампанія на 1931 год па перазаключэньні і заключэньні калдагавароў на прадпрыемствах грамадзкага харчаваньня павінна скончыцца 15 сьнежня, праверка выкананьня калдагавароў за 1930 г. праведзена яшчэ не па ўсіх прадпрыемствах, а калі па некаторых прадпрыемствах ужо і праведзена, дык дастаткова не адлюстравала вучоту нявыкананых абавязкаў, узятых па калдагавору як гаспадарнікамі, так і рабочымі. Дзякуючы такім адносінам працягваюць заставацца прарывы і недахопы ў грамадзкім харчаваньні, якія выяўляюцца ў адсутнасьці наогул прамфінпляну. На 1931 год нават Белкаапсаюзам прамфінплян не зацьверджаны і не разасланы.

Няма вынікаў вучоту выкананьня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, працдысцыпліна кульгае, наглядаюцца нядбайныя, нясумленныя адносіны да выкананьня непасрэдных абавязкаў, ёсьць выпадкі шкодніцтва і злачынства, адсутнічае барацьба з рвацкімі элёмэнтамі, ня прыняты меры да ўзьняцьця прадукцыйнасьці працы, зьніжэньня выдаткаў, а адгэтуль—і сабекаштоўнасьці выпускаемай прадукцыі. Заўважаюцца слабое змаганьне са стратамі, з псаваньнем прадуктаў, са зьнішчэньнем чаргаў, абыякавыя адносіны да апрацоўкі прадуктаў, да падвышэньня якасьці выпускаемых страў, слабое збіраньне і ўтылізацыя водкідаў і да невыкананьне асноўных рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, прапаноў вытворчых нарад, што зьяўляецца па сутнасьці невыкананьнем дырэктыў кампартыі па пытаньні ўзьняцьця рэальнага ўзроўню зарплаты. Усё гэта павінна разглядацца як праяўленьне праваапартуністычных тэндэнцый на практыцы.

Для ліквідацыі ўсіх прарываў і недахопаў у грамадзкім харчаваньні ў дагаворы гаспадарнікі і рабочыя ў вызначаныя тэрміны павінны абгаварыць, якія абавязкі бяруць на сябе гаспадарнікі і рабочыя для зьнішчэньня тых ці іншых недахопаў, і абавязкова правяраць выкананьне ў вызначаны дагаворам тэрмін.



У дзень калектывізацыі і ўраджаю. Выстаўка экспанатаў сельскае гаспадаркі.

# На загатоўчым фронце

З. Фрыдлянскі

## Хлебазагатоўкі па БССР

Хлебазагатоўкі маюць вялізарнейшае значэньне ў выкананьні пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі. Умовы бягучай хлебазагатоўчай кампаніі (высокі ўраджай, рост і ўзмацненьне сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі), як ніколі, стварылі спрыяючыя прадпасылкі для выкананьня цалкам і ў больш кароткі, чым у мінулым годзе, тэрмін пляну хлебазагатовак, значна павялічанага ў параўнаньні з плянам хлебазагатовак мінулай кампаніі. Між тым лічбы і матар'ялы, якія ёсьць у нашым распараджэньні, сьведчаць аб тым, што да гэтага часу хлебазагатоўчая кампанія праходзіць ўсё яшчэ нездавальняюча.

Перш, чым прыступіць да аналізу ходу хлебазагатоўчай кампаніі, трэба каротка спыніцца на тым, з якіх крыніц павінен паступаць хлеб, намечаны па пляну ў бягучую кампанію. Усіх крыніц паступленьня чатыры, а менавіта:

1. Ад саўгасаў 2,2 проц. здаецца непасрэдна Саюзхлебу.
2. Ад калгасаў 19,8 проц. здаецца сельскагаспадарчай і спажывецкай каапэрацыі.
3. Ад індывід. сэктару па кантрактацыі 18,2 проц здаецца спажывецкай каапэрацыі.
4. Таксама ў парадку звычайных загатовак 59,8 проц. здаецца спажывецкай каапэрацыі.

Выкананьне агульнага пляну хлебазагатовак па БССР на 1 лістапада асобнымі сэктарамі, паводле папярэдніх даных беларускай канторы Саюзхлебу, прадстаўляецца ў наступным выглядзе:

| Крыніцы паступленьня | Процант выкананьня пляну |
|---|---|
| 1. Ад саўгасаў . . . . | 19,3 |
| 2. „ калгасаў . . . . . | 37,5 |
| 3. „ індывід. сэктару па кантрактацыі . . . . | 33,9 |
| 4. Таксама ў парадку звычайных загатовак . . | 61,9 |
| У сярэдн. па БССР | 51,0 |

Па асобных хлебазагатоўчых арганізацыях выкананьне гадавых плянаў на 1/XI-30 г. прыводзіцца ў наступнай табліцы:

| Арганізацыі | Процант выкананьня пляну |
|---|---|
| 1. Спажывецкая каапэрацыя . . . . . . . . | 51,0 |
| 2. Сельскагаспадарчая каапэрацыя . . . . . | 55,8 |
| 3. Саюзхлеб . . . . . . | 19,3 |
| Агульны плян па ўсіх загатоўцах | 51,0 |

Як відаць з вышэйпаказаных лічбаў, тэмпы хлебазагатовак, пры якіх па 1 лістапада выканана ўсяго толькі 51 проц., зьяўляюцца зусім нездавальняючымі і нават пагражаючымі зрывам поўнаму і своечасоваму выкананьню пляну. Сацыялістычны сэктар—калгасы і асабліва саўгасы ганебна адстаюць у здачы сваіх лішкаў дзяржаве. Параўнальна больш процант выкананьня пляну хлебазагатовак па сельскагаспадарчай каапэрацыі (55,8 проц. пры сярэднім выкананьні ў 51 проц.) тлумачыцца тым, што ў загатоўку ўключана частковае паступленьне на яе склады збожжа ад індывідуальнага сэктару, якое па пляну намечана да паступленьня па лініі спажывецкай каапэрацыі, а процант

выкананьня пляну вылічан у адносінах да пляну паступленьня ад калгасаў. Пры гэтых умовах фактычны процант выкананьня пляну сельскагаспадарчай каапэрацыяй будзе меншы.

Калі ў верасьні плян хлебазагатовак выканан быў па БССР на 122,4 проц., дык у кастрычніку маем значнае недавыкананьне месячнага пляну— 76,3 проц.

У кастрычніку, замест узмацненьня тэмпаў загатовак, мы маем адваротпадвышэньня ўраджайнасьці, але і ў выніку магутнага разгортваньня калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Амаль 25 проц. усяго пляну дае абагулены сэктар (саўгасы, калгасы). Таксама памылкова было-б думаць, што іншыя кампаніі (уборачная, вясеньні сеў, бульбазагатоўкі і г. д.) зьяўляліся прычынай нездавальняючых тэмпаў у хлебазагатоўках. Мы маем факты дасягненьня асобнымі вёскамі, сельсаветамі і цэлымі раёнамі сапраўд-



Загатоўка збожжа (калгас „Новае Лядцо“, Пухавіцкі раён).

нае зьявішча — паслабленьне тэмпу загатовак. Поўнай небясьпекай зьяўляецца той факт, што, пачынаючы з кастрычніка і да апошняга часу, тэмпы хлебазагатовак стабілізаваліся на вельмі нізкім узроўні.

Было-б найвялікшай памылкай думаць, што нездавальняючыя тэмпы хлебазагатовак у кастрычніку тлумачацца якімісь аб'ектыўнымі прычынамі. Апартуністыя сям-там стараюцца тлумачыць слабасьць хлебазагатовак як-бы вялікімі разьмерамі хлебазагатоўчага пляну.

Ураджай у гэтым годзе перавышае ўраджай мінулых гадоў. Таварнасьць значна ўзрасла ня толькі з прычыны ных баявых тэмпаў у хлебазагатоўках, якія на 1 лістапада далі магчымасьць гэтым вёскам, сельсаветам і раёнам выканаць і нават перавыканаць свае пляны як па хлебазагатоўчай кампаніі, так і па іншых кампаніях. Гэтыя факты ўжо досыць выразна паказваюць, што цяжкасьці, на якія спасылаюцца апартуністыя, могуць быць пераможаны.

Прычыны, якія замарудзілі далейшае разгортваньне тэмпаў хлебазагатовак, трэба шукаць не ў аб'ектыўных умовах, а ва ўмовах нашай уласнай работы. Дзе-ж канкрэтныя прычыны?

Перш за ўсё падрыхтоўчая праца да хлебазагатовак праведзена слаба з прычыны недастатковай мабілізаванасьці загатоўчага апарату і немагчымасьці ўвязаць работу па хлебазагатоўках з іншымі кампаніямі. Ня толькі загатоўчыя арганізацыі, але і мясцовыя арганізацыі (партыйныя, савецкія) не змаглі ў належнай меры ўвязаць правядзеньне кампаніі па хлебазагатоўках з іншымі кампаніямі, як уборачнай, бульбазагатоўчай і г. д.

З усіх фактаў даволі спыніцца хаця-б на адным: цьвёрдае заданьне кулацка-заможным гаспадаркам па здачы імі лішкаў хлеба дзяржаве, ня гледзячы на неаднакротныя дырэктывы, яшчэ дагэтуль не ажыцьцёўлена ў колькі-небудзь дастатковай ступені. Шэраг раёнаў да гэтага часу ня маюць больш менш дасканальных даных аб тым, колькі кулацка-заможных гаспадарак ёсьць ў раёне, і якая колькасьць хлеба павінна ад іх паступіць. Дастаткова паказаць, што Наркамгандлю, ня гледзячы на неаднакротныя запытаньні, ня можа да гэтага часу дабіцца ад раёнаў плянаў паступленьня па цьвёрдых заданьнях. На 1 лістапада атрыманы зьвесткі толькі ад 55 раёнаў. Наркамгандлю ня мае да сёньняшняга дню агульнага пляну загатовак па цьвёрдых заданьнях. Адсюль і адсутнасьць кантролю за паступленьнем кулацка-заможнага хлеба. Па даных Наркамгандлю БССР (па зьвестках 80 раёнаў), на 1 лістапада паступіла ад кулацка-заможных гаспадарак 5.622 тоны хлеба. Калі арыентовачна лічыць (мяркуючы па атрыманых зьвестках ад шэрагу раёнаў) агульны плян паступленьня ад кулацка-заможных гаспадарак у 12.000-13.000 тон, то стане яскрава, у якім становішчы знаходзіцца спаганяньне гэтага збожжа (менш 50 проц. пляну).

Усе тэрміны здачы хлеба кулацка-заможнымі гаспадаркамі ўжо прайшлі. Гэтыя факты нельга расцэньваць інакш, як горшае праяўленьне правага апартунізму на практыцы.

Другой сур'ёзнай памылкай у правядзеньні хлебазагатоўчай кампаніі зьяўляецца недастатковая ўвага да спагнаньня закантрактаванага хлеба ў адзінаасобным сэктары (42,5 проц. на 1 лістапада).

Пытаньне аб пасіленьні тэмпаў хлебазагатовак у значнай ступені ёсьць пытаньне аб арганізацыі хлебазагатовак у адзінаасобным сэктары. Зусім апраўдаўшая сябе практыка самаабавязацельстваў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак перад вясковай грамадзкасьцю на здачу адпаведнай колькасьці хлеба, якая забясьпечвае выкананьне пляну, рэалізуецца ў шэрагу раёнаў слаба, што ў асноўным тлумачыцца агульнай арганізацыйнай слабасьцю грамадзкай і масавай работы ў адзінаасобным сэктары.

Аднак, паказанымі вышэй прычынамі ня вычэрпваюцца тлумачэньні слабасьці тэмпаў хлебазагатоўчай работы.

Магутным падважнікам узмацненьня тэмпаў загатовак зьяўляецца мабілізацыя сродкаў насельніцтва, аднак і на гэтым вучастку працы ня ўсё добра. Ня меншае значэньне ў пасабленьні тэмпаў хлебазагатовак мае і тое, што партыйныя, савецкія і загатоўчыя арганізацыі да гэтага часу не мабілізавалі яшчэ ў дастатковай меры вясковы актыў вакол кампаніі і не скарыстоўвалі больш правільна і мэтазгодна сілы, перакінутыя з гораду (рабочыя брыгады). Слабасьць масавай работы тлумачыцца недастатковай актыўнасьцю камісій садзейнічаньня хлебазагатоўкам, слабой арганізаванасьцю жаночых мас і г. д.

Бягучы месяц зьяўляецца рашаючым ва ўсёй кампаніі. Трэба тэрмінова і рашуча выправіць недахопы, зьвязаныя з кампаніяй. Плян хлебазагатовак можа і павінен быць цалкам выкананы да 1 сьнежня.

Альпяровіч

# Як ідзе забесьпячэньне гароднінай і бульбай рабочых цэнтраў (гарадоў)

Бульба і гародніна ў рабочым забесьпячэньні, пры некаторых цяжкасьцях, якія мы маем зараз наогул у сувязі з рабочым забесьпячэньнем, павінны адыграць вялікую ролю, бо гэтыя прадукты павінны ў значнай ступені аслабіць недахоп у мясе і тлушчах, якімі рабочы спажывец цалкам не задавальняецца. На жаль, у мінулыя гады спажывецкая каапэрацыя зварочвала зусім мала ўвагі на гэта важнейшае пытаньне—пытаньне забесьпячэньня рабочага спажыўца гароднінай і бульбай. Толькі ў бягучым годзе Белкаапсаюз і ўся спажывецкая каапэрацыя як найбліжэй падыйшлі да гэтага пытаньня, і з боку Белкаапсаюзу было ўдзелена шмат увагі распрацоўцы пляну на 1930/31 г. па забесьпячэньні рабочых цэнтраў (гарадоў) Беларусі бульбай і гароднінай. Трэба было распрацаваць такі плян, які-б улічыў сапраўдныя запатрабаваньні рабочых і быў рэальным у сэнсе яго выкананьня. У выніку выяўленьня сапраўдных патрэб рабочых плян быў прыняты ў наступных лічбах:

| | | |
|---|---|---|
| Бульбы | 87857 | тон |
| Гуркоў | 5249 | „ |
| Буракоў | 3666 | „ |
| Памідораў | 3126 | „ |
| Капусты | 15895 | „ |
| Цыбулі | 3666 | „ |
| Морквы | 3666 | „ |
| Інш. гародніны | 1492 | „ |

Адказнасьць за выкананьне гэтага пляну па забесьпячэньні гароднінай і бульбай рабочых цэнтраў адпаведнымі арганізацыямі ўскладзена на спажывецкую каапэрацыю і Белплодагародніну праз сыстэму Садсаюзу. Па лічбовых даных, якія мы маем на першае лістапада, выкананьне ўсімі арганізацыямі прыведзенага вышэй пляну зьяўляецца вельмі нездавальняючым. Аб гэтым гавораць наступныя лічбы:

Усяго паступіла па цэрабкоопах на 1/XI-30 г. (бяз прыгарадных гаспадарак):

| | Кольк. тон | % вык. пляну |
|---|---|---|
| Бульбы | 32947,5 | 37 |
| Гуркоў | 477 | 10 |
| Буракоў | 727 | 20 |
| Памідораў | 484,5 | 15 |
| Капусты | 4003.8 | 25 |
| Цыбулі | 409,7 | 11 |
| Морквы | 542 | 14 |
| Інш. гародн. | 122,6 | 13 |

Вышэйпаказаныя процанты выкананьня пляну і ход здачы цэрабкоопам гародніны выклікаюць вялікую трывогу ў нармальным і бесьперабойным забесьпячэньні рабочых гароднінай і гавораць аб тым, што зараз жа павінны быць прыняты ўсе неабходныя мерапрыемствы па ўзмацненьні здачы. Гэтым пытаньнем павінны займацца ня толькі рабочыя каапэратывы і Белкаапсаюз, але і ўся рабочая грамадзкасьць, усе арганізацыі і, у першую чаргу, тыя арганізацыі, якія непасрэдна вядуць загатоўку гэтых прадуктаў.

Ход здачы гародніны цэрабкоопам па лініі Садсаюзу (я прыводжу лічбы на гэты раз выключна па Садсаюзу таму, што ён павінен здаць ня менш 47 проц. усяе гародніны, астатняя колькасьць падае на прыгарадныя гаспадаркі цэрабкоопаў і спажывецкай сыстэмы) характарызуецца наступнымі данымі:

| Назва прадуктаў | Надлягае здачы па пляну Садсаюзу | Фактычна здана на 1/XI | % выкананьня здачы (акруглена) |
|---|---|---|---|
| Капуста | 9730 тон | 1802 т. | 18 |
| Морква | 1629 „ | 315,9 „ | 18 |
| Буракі | 1374 „ | 460 „ | 34 |
| Цыбуля | 1150 „ | 202,6 „ | 17 |
| Гуркі | 2938 „ | 1003,1 „ | 37 |

Як відаць з прыведзенай табліцы, здача гароdніны Садсаюзам зьяўляецца настолькі нязначнай, што з яго боку павінны быць ужыты канкрэтныя мерапрыемствы да фарсаваньня здачы гэтакай. Што-ж робіць Садсаюз для таго, каб узмацніць адгрузку і здачу гародніны цэрабкоопам?

Замест таго, каб ліквідаваць прарыў і выканаць дырэктывы партыі і ўлады па пытанні забесьпячэньня рабочых, Садсаюз спакойна сьпіць і да гэтага часу нічога канкрэтнага, рэальнага не зрабіў, ня пряняў ніякіх мер да выкананьня дырэктыў партыі і ўлады. Белкаапсаюз некалькі разоў ужо зварочваў увагу Садсаюзу, што такое становішча з адгрузкай і здачай прывядзе да поўнага зрыву рабочага забесьпячэньня, але-ж апошні адмоўчваецца. Весткі з месц гавораць аб тым, што ў апошнія дні становішча са здачай гародніны яшчэ больш пагоршылася. Вось некаторыя факты: Аршанскі цэрабкооп тэлеграфуе, што капуста па нарадах не паступае, зрываецца засолка. Аб гэтым паведамляюць і ўсе астатнія цэрабкоопы: Бабруйскі, Віцебскі, Гомельскі. Паступленьне гародніны ў Менск таксама нязначнае. Дрэнна яшчэ тое, што Садсаюз займаецца наогул зьдзекамі з рабочага забесьпячэньня, па некалькі раз мяняе нарады альбо выдае нарады на няіснуючую гародніну. Прыкладам гэтага можа быць ліст Высачанскага раймалжывёлгадоўчага саюзу наступнага зьместу: „На Вашу адносіну, № 324, ад 29/IX г. г. паведамляем, што нараду на адпраўку Вам цыбулі мы ня маем, а таму на нашу цыбулю не спадзявайцеся, бо гэта Вам памылкова паказана, што мы Вам павінны адправіць 53 тоны. Адносна буракоў паведамляем, што зможам Вам даць ня больш як 39 тон, прымеце да ведама“. Такіх лістоў магчыма было-б прывесьці яшчэ шмат. Усё гэта сьведчыць аб тым, што Садсаюз ня ведае, дзе і што ён мае, што Садсаюзам зусім ігнаруецца рабочае забесьпячэньне і што працу Садсаюзу трэба ўзяць пад абстрэл шырокай пралетарскай самакрытыкі.

Мы патрабуем ад Садсаюзу, як і ад другіх арганізацый (аб ходзе здачы другімі арганізацыямі спынюся ў другі раз больш падрабязна) на застаўшыся кароткі час прыняцьця сапраўды бальшавіцкіх канкрэтных і тэрміновых мер да поўнай здачы цэрабкоопам гародніны.



Гарачыя катлы фабрыкі-кухні.

# Вынікі нашае чысткі

І. Верба

## Што выявіла чыстка апарату Белкаапсаюзу

(*канец* [1])

На жаль, у памерах журнальнага артыкулу нельга дэталёва спыніцца на ўсіх пытаньнях працы спажывецкае каапэрацыі. Мы ў папярэдніх нумарох часопісі ахарактарызавалі становішча працы сыстэмы па асноўных галінах яе дзейнасьці: рабочага забесьпячэньня, загатовак, мабілізацыі сродкаў. Аб астатніх пытаньнях: арганізацыйна-масавай працы, культурна-бытавой, падрыхтоўцы кадраў і г. д. мы абмяжуемся агульнымі паказаньнямі на тое, што гэтыя вельмі важныя вучасткі працы таксама не абыйшліся бяз шэрагу прарываў і недахопаў. Адсутнасьць выразнасьці ў працы апарату сыстэмы, яе крохаборчаскія і чарапашыя тэмпы ў шмат якіх галінах працы аказалі вельмі цяжкі ўплыў на памянёныя вучасткі працы. Замест ілюстрацыі гэтых недахопаў і прарываў, мы лепей паспробуем давесьці да ведама чытача часопісі „Каапэрацыя БССР“ аб тых карэньнях і прычынах, якія спарадзілі гэтыя адмоўныя зьявішчы ў працы сыстэмы.

Камісія па чыстцы і ЦКК-РСІ лічаць, што асноўнай прычынай гэтых прарываў зьяўляецца тое, што кіраўніцтва спажсыстэмы ня здолела забясьпечыць сыстэматычнага нагляду за правядзеньнем усімі зьвеньнямі сыстэмы выразнай і клясава вытрыманай лініі.

Белкаапсаюз і яго праўленьне прайшлі міма сур'ёзьнейшых прарываў і скажэньняў клясавае лініі ў Добрускім, Мазырскім, Аршанскім і Віцебскім ЦРК, ня выкрылі грубых праваапартуністычных прарываў у Гомельскім райсаюзе, ня выкрылі разлажэньня апарату і злачыннай дзейнасьці ў Полацкім аддзяленьні БКС, безгаспадарчасьці і хаатычнасьці ў Мазырскім аддзяленьні Гомрайсаюзу і г. д. У тых-жа выпадках, калі гэтыя прарывы выкрываліся, Белкаапсаюз і яго праўленьне не рэагавалі на іх належным чынам, не рабілі з іх адпаведных палітычных і арганізацыйных вывадаў для ўсіх сыстэм.

Белкаапсаюз не перабудаваў мэтадаў свайго кіраўніцтва і працы апарату ў такім напрамку, які-б запясьпечваў сваячасовую сыгналізацыю і выразнасьць клясавае лініі ў рабоце.

У самым апараце Белкаапсаюзу панавала такая-ж самая бескантрольнасьць. Усе дырэктывы партыі і ўрадовых органаў аб устанаўленьні кантролю над выкананьнем, як важнейшага зьвяна ў рабоце савецкага каапэрацыйнага апарату, засталіся ў літаральным сэнсе на паперы. Важныя дырэктывы і рашэньні партыі і ўраду сустракалі напляваўцельскія адносіны з боку пэўных зьвеньняў апарату. Пастановы студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б, якія абавязвалі спажывецкую каапэрацыю правесьці шэраг важнейшых мерапрыемстваў у галіне рабочага забесьпячэньня, у галіне арабочаньня апарату, ня толькі ня былі выкананы ў жніўні месяцы, але нават і ня былі знойдзены ў апараце Белкаапсаюзу. Чым, калі не напляваўцельскімі адносінамі да дырэктыў вышэйшых органаў і адсутнасьцю якіх-бы та ні было адзнак кантролю можна тлумачыць той факт, што важныя пастановы праўленьня Белкаапсаюзу ў лістападзе 1929 году

[1]) Пачатак гл. у №№ 6-7 і 9-10 час. „Каапэрацыя БССР“.

аб абслугоўваньні сацыялістычнага сэктару вёскі былі цалкам нявыкананы, што было выкрыта рабочымі брыгадамі па чыстцы ў маі месяцы. Гэта бескантрольнасьць унутры сыстэмы і самым апараце БКС стварыла атмосфэру безадказнасьці асобных зьвеньняў апарату, стварыла абставіны сямейнасьці і недысцыплінаванасьці ўсяе сеткі. Гэта, бясспрэчна, адна з галоўных прычын кепскае працы спажывецкае каапэрацыі.

Рэвізійныя камісіі таксама не забясьпечылі сваячасовага кантролю і сыгналізацыі. Ня глелзячы на шэраг пастаноў і паказаньня кіруючых органаў аб мэтадах працы рэвізійных камісій, апошнія да гэтага часу ў большасьці выпадкаў безьдзейнічалі, або зьяўляліся дадаткам да каапэрацыйных органаў. Так, напрыклад, рэвізійная камісія Гомельскага райсаюзу ў адказ на заметку ў газэце аб засьмечанасьці апарату прымае пастанову: „Лічыць, што ў апараце райсаюзу чужых элемэнтаў няма“. Гэта ў той час, калі ў апараце Гомрайсаюзу працавала каля 20 проц. выхадняў з сем'яў гандляроў, кулакоў і г. д.

Слабая арганізацыя масавай працы, няздольнасьць спажывецкай каапэрацыі мабілізаваць масы ў справе кантролю над усёй работай спажывецкае каапэрацыі і дапамогі ёй у яе працы, бескантрольнасьць і недысцыплінаванасьць унутры самае сыстэмы зьявіліся важнейшым фактарам у галіне затармажэньня разгортваньня самакрытыкі.

Спажкаапэрацыя налічвае рад ганебных фактаў зацiску самакрытыкі, ганеньня рабкораў, зацiску ўнутры апаратаў і за межамі яго ў адносінах каапэрацыйнай грамадзкасьці. Характэрнымі фактамі зацiску самакрытыкі зьяўляюцца: прасьледваньне рабкора Гаўрылава ў Гомельскім райсаюзе, менскіх рабкораў у МЦРК, рабкора БКС Катлярова, зацiск самакрытыкі ў Добрушы, Мазыры і махровы зацiск з боку каапэрацыйных злачынцаў Полацкага аддзяленьня БКС. Гэта ў верхавінах зьвеньняў спажсыстэмы, а ў сетцы становішча, вядома, ня лепшае. Аб гэтым сьведчаць факты агіднага абдзёргваньня крытыкаваўшых на сходах пайнікаў і ўпаўнаважаных, таксама зацiску самакрытыкі ў Чачэрскім спажтаварыстве і г. д. Натуральна, што зацiск самакрытыкі ў асобных зьвеньнях спажсыстэмы і вельмі слабое разгортваньне самакрытыкі па ўсёй сыстэме спажкаапэрацыі зьяўляюцца важнейшымі прычынамі прарываў і асобных правалаў сыстэмы.

Вельмі важнай прычынай усіх гэтых буйнейшых недахопаў у працы каапэрацыі зьяўляецца яшчэ і тое, што ўся сыстэма была пабудована вельмі складана і нерацыянальна. Шматлікасьць зьвеньняў паралізавала ініцыятыву і самадзейнасьць нізоўкі асноўнага праваднiка ўсяе каапэрацыйнае працы. Дырэктывы кіруючых цэнтраў затушоўваліся ў прамежных зьвеньнях, а нізавая практыка, вопыт працы не маглі пранікнуць у Белкаапсаюз праз сьцены розных аддзяленьняў, кантор і саюзаў. Гэта стварала нявыразнасьць, блытаніну ў выкананьні розных важнейшых дырэктыў. Нерацыянальная пабудова сыстэмы выклікала яшчэ тое, што асобныя яе зьвеньні ў барацьбе за самастойнасьць супроцьстаўлялі сябе адзін аднаму. Гэта супроцьстаўленьне ўзмацніла тэндэнцыю выпучваньня камэрцыйных інтарэсаў і элемэнтаў гандлярства. Пад „каапэрацыйным прывітаньнем“ часта захоўвалася ўпартае нежаданьне асобных зьвеньняў сыстэмы выконваць дырэктывы вышэйшага зьвяна. Белкапсаюз не зьяўляўся кіраўніком і арганізатарам сыстэмы, штабам спажывецкае каапэрацыі. Камэрцыйная дзейнасьць, барацьба за процант накладаньняў, „барацьба“ з Наркамгандлем і загатоўчымі арганізацыямі мелі перавагу над усім, стварылі атмасфэру „камэрцыйнай беганіны“ і затушоўвалі новыя задачы спажывецкае каапэрацыі, якія даўно ўжо вышлі за межы чыстагандлёвай працы.

Структура апарату Белкаапсаюзу аказалася абсалютна няпрыгоднай для выкананьня задач, пастаўленых перад спажкаапэрацыяй пэрыодам

рэканструкцыі. Грамозны, непаваротны апарат уносіў у работу шмат блытаніны, паралелізму і безадказнасьці. Складаньні плянаў, дача дырэктыў і апэрацыйная работа ня былі ў больш ці менш дастатковай ступені ўвязаны паміж сабою. Апэрацыйныя аддзелы Белкаапсаюзу займаліся тэхнічнай, арганізацыйнай работай, а пытаньні клясавасьці, арганізацыі грамадзкасьці і наогул выкананьне палітычных дырэктыў вышэйшых органаў зьяўляліся чамусьці манаполіяй аднаго аргаддзелу Белкаапсаюзу.

У самой структуры Белкаапсаюзу новыя задачы (сельгас. прадпрыемствы, грамадзкае харчаваньне, кадры і г. д.) не займалі адпаведнага месца. Рад важнейшых праблем — пытаньні цэн, выдаткаў, звароту і г. д. аказаліся бяспрытульнымі. Характэрна ў сувязі з гэтым расстаноўка сіл апарату па асноўных вучастках: у апэрацыйным аддзеле — 20 чалавек, канцэлярыі—26 чалавек, бухгальтэрыі—47 чалавек, затое ў аддзеле грамадзкага харчаваньня толькі 5 чалавек, хлебапячэньня — 1/3 чалавекі, кадраў—2 чал., кантрольна-інструктарскай групе—4 чалавекі і г. д.

Бясспрэчна таксама тое, што якасьць апарату каапэрацыі аказвала адпаведны ўплыў на ўсё становішча працы. Апарат сыстэмы ў значнай ступені засьмечаны чужым элемэнтам Рабочая праслойка зусім слабая. Ёсьць шмат адказных працаўнікоў каапэрацыі, якія працуюць на адным месцы па 8-12 гадоў, што ў значнай ступені адбіваецца на прыстасаваньні іх мэтадаў працы да новых мэтадаў і тэмпаў, бо гэтыя работнікі ўпарта чапляюцца за старыя, аджыўшыя формы і старакаапэрацыйныя традыцыі. Апарат Белкаапсаюзу, які мае ў складзе кіруючага ядра ў асноўным здаровую рабочую праслойку (з 11 членаў праўленьня і загадчыкаў сэктарамі—7 рабочых), значную партыйную і камсамольскую праслойку (каля 30 проц. усяго складу работнікаў), групу рабочых вылучэнцаў—каля 20 асоб, рад адданых спэцыялістых, усё-ж на некаторых вучастках працы (загатоўчы аддзел, разьмеркавальны, плодагародніны) аказаўся засьмечаным бюракратычнымі элемэнтамі і палітычна няздольнымі працаваць ва ўмовах сацыялістычнае рэканструкцыі. У часе чысткі выявілася, што ў загатоўчым аддзеле Белкаапсаюзу былі былыя гандляры, экспэдытары, фармацэўты, але-ж ня было ніводнага камуністага, ніводнага вылучэнца. Гэта група працавала бескантрольна, дапушчала ў сваёй рабоце гандлярскія мэтады, дапушчала яшчэ ў 1930 годзе пакупкі ў прыватнікаў, давала рад антыпартыйных установак (тэзісы па хлебазагатоўках і г. д.). Гэтая група працаўнікоў разьвівала ў сваёй дзейнасьці агідна-бюракратычныя прыёмы (Бэрман і г. д.). Гэтая група працаўнікоў ня толькі не праяўляла ініцыятывы па падрыхтоўцы пралетарскіх кадраў, але, наадварот, упарта супроцьдзейнічала падрыхтоўцы і вучобе маладых савецкіх кадраў.

Засьмечанасьць каапэрацыйнага апарату, у асаблівасьці нізавых яго зьвеньняў чужымі і бюракратычнымі элемэнтамі, слабое разгортваньне грамадзкасьці перашкаджалі апарату пераключыцца на новыя тэмпы работы. Сацспаборніцтва і ўдарніцтва, як мэтады работы, зусім не ўкараніліся ў працу каапэрацыі. На мясцох наглядаюцца фармальныя адносіны да гэтай справы. У некаторых мясцох, якія ўступілі ў сацспаборніцтва, нават няма саміх дагавароў. У Рэчыцы на запытаньне аб прад'яўленьні дагавору для азнаямленьня адказалі: „нас выклікаў на сацспаборніцтва Мазырскі ЦРК, і там вы знойдзеце дагавор“. У Мазыры дагавору таксама не аказалася. Праверка сацспаборніцтва паміж асобнымі магазынамі выявіла, што ў некаторых магазынах няма гэтых дагавароў. Былі выпадкі, калі ў магазыне дагавор літаральна „пацукі зьелі“.

**Усе гэтыя абставіны — адсутнасьць у шмат якіх выпадках бальшавіцкага рэагаваньня на прарывы, бескантрольнасьць і выпадкі заціску самакрытыкі, бюракратычная пабудова апарату, засьмечанасьць яго чужымі і бюра-**

**кратычнымі элемэнтамі, злачынна-слабое ўкараненьне камуністычных мэтадаў працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва стварылі разам магутны тормаз у працы каапэрацыі, які перашкаджаў ёй ісьці ў адпаведнасьці з агульнымі тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва. Гэтым тлумачацца ўсе тыя буйныя прарывы і недахопы, аб якіх мы пісалі вышэй.**

* * *

На падставе выяўленых недахопаў у працы апарату да чысткі было прыцягнута 38 працаўнікоў, з іх атрымала спагнаньняў 31 асоба, што складае 19 проц. да агульнае колькасьці служачых апарату Белкаапсаюзу ў час чысткі. З гэтага ліку зьнята з працы па II катэгорыі 3 асобы, па III—5, без катэгорый — 7, а астатнія 16 працаўнікоў атрымалі розныя іншыя спагнаньні.

Сацыяльны склад працаўнікоў, якія праходзілі чыстку, наступны: 1 рабочы, 26 служачых і 4 былыя гандляры.

Камісія па чыстцы не абмежавалася толькі пастановамі аб зьняцьці з працы таго ці іншага кансультанта альбо інструктара. Асноўнай задачай чысткі зьяўлялася распрацоўка раду мерапрыемстваў, якія-б забясьпечылі палепшаньне працы апарату. У выкананьне гэтай задачы камісія па чыстцы, пры шырокім садзейнічаньні грамадзкіх арганізацый Белкаапсаюзу, распрацавала новы праект структуры апарату Белкаапсаюзу, дала схэму пабудовы апарату сыстэмы пасьля ліквідацыі яго акруговых зьвеньняў. Згодна гэтае новае структуры апарату Белкаапсаюзу ўся праца апарату павінна была пераключыцца на асноўныя задачы, якія стаяць перад каапэрацыяй. Задачам рабочага забесьпячэньня, грамадзкага харчаваньня, працы сельгас. прадпрыемстваў, нарыхтовак, кантролю, інструктажу і г. д. было адведзена асноўнае месца ў структуры апарату. Камісія па чыстцы перагледзела функцыі паасобных аддзелаў, ліквідавала рад аддзелаў (Белрабсэкцыю, апэрацыйны аддзел і г. д.), стварыла новыя структурныя адзінкі ў апараце (кантрольна-інструктарскую групу, сэктар забесьпячэньня і г. д.), устанавіла больш выразныя ўзаемаадносіны паміж паасобнымі сэктарамі і функцыянальнымі адзінкамі.

Камісія па чыстцы дала рад практычных прапаноў па палепшаньні працы апарату, па зьнішчэньні выяўленых недахопаў, па выкананьні новых задач, якія стаяць перад каапэрацыяй. Усе гэтыя прапановы сумесна з матар'ялам брыгад складаюць вельмі каштоўны матар'ял, які павінен быць пакладзены ў аснову далейшай працы апарату.

* * *

Пасьля сканчэньня чысткі прайшло ўжо некалькі месяцаў. Мы маем права задаць сабе пытаньне: **ці працуе пасьля чысткі апарат Белкаапсаюзу лепей, чым раней? Мы павінны адказаць: так, трохі лепей.**

Мы маем на ўвазе больш хуткае і палітычна-правільнае рэагаваньне кіраўніцтва Белкаапсаюзу на паасобныя прарывы ў сыстэме, лепшую сыгналізацыю зьнізу. Мы можам таксама адзначыць больш выразную працу сэктару загатовак і нават некаторыя дасягненьні ў пастаноўцы працы сэктару забесьпячэньня. **Але-ж гэтыя дасягненьні зусім невялікія, яны ні ў якім разе не адпавядаюць тым патрабаваньням, якія высунулі партыя і рабочая кляса перад каапэрацыяй.** За апошні час органамі ЦКК-РСІ і кантрольна-інструктарскай групай Белкаапсаюзу выкрыты рад новых прарываў у працы сыстэмы (Менскі, Віцебскі, Гомельскі ЦРК і г. д.). **Ці павінен адказваць за гэтыя прарывы Белкаапсаюз? Так, ён павінен адказваць, бо гэтыя прарывы ў значнай частцы тлумачацца тым, што штаб спажывецкай каапэрацыі працуе яшчэ далёка ня так выразна, як**

**гэта патрэбна.** Белкаапсаюз і яго органы на мясцох пакуль што вельмі слаба выконваюць дырэктывы партыі аб палепшаньні рабочага забесьпячэньня, аб карэнным палепшаньні грамадзкага харчаваньня, аб пагалоўным ахопе асноўных мас рабочых гарачай ежай, аб пашырэньні харчовай базы і мабілізацыі харчовых рэсурсаў вёскі. Задача апарату Белкаапсаюзу і сыстэмы—удзесяцярыць сваю энэргію і нага ў ногу з рабочай клясай пайсьці бальшавіцкімі тэмпамі па шляху выкана" + "ньня пяцігодкі ў чатыры гады.



Менск. Дом Селяніна.

**Узмацнім мабілізацыю сродкаў на індустрыялізацыю краіны.**

Д. Лідзін

## Сампрамкаапэрацыя Беларусі ў кантрольных лічбах на 1931 г.

У кантрольных лічбах народнай гаспадаркі і культуры БССР, якія зацьверджаны Саветам народных камісараў БССР на 1931 год, адводзіцца пэўнае месца як капітальным укладаньням, так і наогул разьвіцьцю сампрамкаапэрацыі Беларусіі.

Саўнарком Беларусі прыняў агульны разьмер капітальных укладаньняў у 1931 г. у суме 6 мільёнаў 7.2 тыс. руб. У 1929-30 г. было 2.117 тыс. руб., у асобным квартале 1930 г.—970 тыс. рублёў. З іх на выраб будаўнічых матар'ялаў адведзена 1 мільён 472 тыс. руб.

Сярэдня-гадовы лік членаў вытворчых арцеляй на 1931 г. намечаны ў 57,9 тыс. чалавек у параўнаньні з 26,7 тыс. чалавек у 1930 г., альбо прырост звыш 30 тыс. чалавек.

Апроч таго, па лініі абслугоўваючых арцеляй намечана павялічэньне сярэдня-гадовага ліку членаў арцеляй з 3,7 тыс. чалавек у 1930 г. да 4,3 тыс. чалавек у 1931 г. (плюс 59 проц.), альбо 5.520 чалавек на 1 студзеня 1931 г. у параўнаньні з 3.075 чалавек на 1 студзеня 1930 г.—прырост на 2,5 тыс. чалавек.

У адпаведнасьці з павялічэньнем ліку каапэраваных саматужнікаў, а таксама з павялічэньнем норм выпрацоўкі ў паасобных промыслах Савет народных камісараў БССР вызначыў агульную прадукцыю вытворчых саматужных арцеляй у 1931 годзе у 156 млн. руб. (па цэнах адпаведнага году) у параўнаньні з 84,9 млн. руб. у 1930 г.

Капітальныя ўкладаньні па Белсамправаб'яднаньню на 1931 г. вызначаны ў суме 12 мільёнаў 860 тыс. р.

Савет народных камісараў Беларусі вызначыў падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў розных кваліфікацый па лініі сампрамкаапэрацыі ў ліку ня менш 2 тыс. асоб.

Савет народных камісараў БССР устанавіў заданьні для паянакапленьня па саматужна-прамысловай каапэрацыі ў суме 2,3 млн. руб.

Аб'ём фінансаваньня мерапрыемстваў саюзнага значэньня за кошт саюзнага бюджэту па саматужна-прамысловай каапэрацыі вызначаны ў суме 1,6 млн. руб.

Савет народных камісараў БССР даручыў Белсампрамсаюзу ўжыць усе захады да поўнага выкананьня вызначаных тэмпаў каапэраваньня, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на выкананьне і перавыкананьне намечанага разьвіцьця промыслаў, якія працуюць на бездэфіцытнай сыравіне, а таксама на пашырэньне вырабаў больш каштоўных рэчаў асабовага і хатняга ўжытку.

Вышэйшаму Савету народнай гаспадаркі Беларусі і Белсампрамсаюзу даручана ўжыць тэрміновыя захады да выпрацоўкі эфэктыўнае цэглы.

Акрамя ўсяго гэтага, Белсампрамсаюзу запрапанована праграму выпрацоўкі вапны давесьці да разьмеру, які забясьпечваў-бы поўнае задавальненьне вапнаю мясцовай выпрацоўкі ўсяе будаўнічай праграмы на 1931 г.

Неабходна сампрамкаапэрацыі ўжыць з свайго боку ўсе захады да таго, каб гэтыя заданьні ураду Беларусі былі ня толькі выкананы, а і перавыкананы.

С. Лодысеў

# Аб працы Полацкага Сампрамсаюзу

За 1930 год Полацкі Сампрамсаюз меў значны рост каапэраваньня ў арцелі, пры чым гэты рост ішоў, галоўным чынам, за лік саматужнікаўадзіночак, а таксама за лік бядняцкай часткі гарадзкога і вясковага насельніцтва.

Ёсьць дасягненьні ў павялічэньні вытворчасьці працы і зьніжэньні сабекошту па некаторых арцелях („Белсаматужнік", „Праўда" і „Салідарнасьць"). Арцелі дабіліся гэтага дзякуючы ўвядзеньню разьмеркаваньня працы, палепшаньню пастаноўкі тэхнічнага абслугоўваньня і частковай мэханізацыі вытворчасьці.

Дрэнна тое, што рост членаў арцеляй ідзе пераважна ў тых арцелях, якія працуюць на дэфіцытнай сыравіне.

Недастатковая ўвага зьвяртаецца на пашырэньне майстэрняў па пачынцы абутку і па масавай пачынцы для рабочых, служачых і асабліва дзяцей.

Плян мабілізацыі сродкаў (паі, фонд мэханізацыі і г. д.) арцелі выканалі толькі на 85 проц., што бязумоўна зьяўляецца недастатковым.

Слаба разгорнута масавая работа па сацыялістычнаму спаборніцтву, ударніцтву і палепшаньню якасьці прадукцыі. Ня зусім добра пастаўлена і культурна-выхаваўчая работа сярод членаў арцеляй гораду і зусім адсутнічае па вясковых арцелях. Да гэтага яшчэ трэба дадаць і тое, што на вясковыя арцелі не зьвяртаецца аніякай ўвагі з боку мясцовых арганізацый.



Будуюцца новыя склады для хаваньня гароднiны.

Вясковыя арцелі, якія працуюць на мясцовай сыравіне па вырабу гонту, кошыкаў і інш., працуюць слаба, яны нават ня маюць каапэрацыйнага выгляду, бо ня маюць агульных майстэрняў.

Недастатковая, работа праводзіцца па ўцягненьню ў арцелі батрацкабядняцкіх мас. Сельсаветы ў гэтым напрамку не дапамагаюць арцелям, таксама і не дапамагае саюз сельскагаспадарчых і лясных рабочых.

Дасканаласьць вучоту складу членаў арцеляй па сацыяльна-маемаснаму становішчу, асабліва на вёсцы, адсутнічае.

Што трэба зрабіць, каб зьнішчыць адзначаныя недахопы?.

Трэба ўжыць усе захады да таго, каб існуючыя арцелі пашырыць і, у першую чаргу, тыя арцелі, якія працуюць на мясцовай сыравіне.

Само кіраўніцтва сампрамсаюзу павінна перайсьці на новыя прынцыпы спагнаньня паёў і найбольшага распаўсюджваньня пазыкі „Пяцігодка у чатыры гады", давёўшы апошнюю да 100 проц. ахопу пазыкай членаў арцеляй, пры чым кожны член арцелі павінен падпісацца ў разьмеры ня менш 2-тыднёвага заробку.

Акрамя гэтага, трэба правесьці работу па замацаваньні членаў арцеляй на вытворчасьці да канца выкананьня пяцігодкі.

У далейшай вытворчасьці працы павінны быць ужыты захады да павялічэньня аб'ектаў мэханізацыі ў арцелях, яшчэ большага зьніжэньня сабекошту, павялічэньня вытворчасьці працы і зьніжэньня адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў ня менш, як на 15 проц.

Сампрамсаюзу трэба паклапаціцца і аб тым, каб уцягнуць усіх членаў арцеляй у Асаавіяхэм і іншыя грамадзкія арганізацыі.

Павінны быць ужыты захады і да палепшаньня культурна-выхаваўчай работы, для чаго ў больш буйных арцелях неабходна арганізаваць чырвоныя куткі.

Трэба шырэй разгарнуць ва ўсіх арцелях сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, аднначасова паставіць задачу па палепшаньні якасьці выпускаемай прадукцыі.

Як Сампрамсаюз, так і раённая інспэктура народнае асьветы павінны будуць зараз-жа разгарнуць работу па арганізацыі лікпунктаў і школ для няпісьменных па сыстэме Сампрамсаюзу на гэты год, уцягваючы ўсіх няпісьменных і малапісьменных членаў арцеляй.

Полацкі і Дрэтуньскі леспрамгасы павінны аказваць поўную дапамогу ў своечасовым забесьпячэньні арцеляй лесаматар'ялам і асабліва тых арцеляй, якія працуюць па вырабу будаўнічых матар'ялаў, а сампрамсаюз павінен зараз-жа даць адпаведныя заяўкі Саюзлесу.

Сампрамсаюзу трэба ўжыць тэрміновыя захады да таго, каб цалкам выканаць плян па пачынцы абутку і вопраткі.

Полацкі гарсавет павінен пайсьці насустрэчу Сампрамсаюзу ў прадастаўленьні адпаведных памяшканьняў для канцэнтрацыі вытворчасьці арцеляй у адным месцы, а не распыляць адны і тыя-ж працэсы вытворчасьці па розных памяшканьнях і на розных адлегласьцях.

---

К. Гольбін

## Рацыяналізацыя вучоту ў арцелях сыстэмы прамкаапэрацыі

*(у парадку абмеркаваньня)*

Згодна існуючаму палажэньню, па рахункаводзтву фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў у арцелях прамкаапэрацыйнай сыстэмы вядзецца вучот вырабаў па сабекошту, па рахунку гатовых вырабаў. Гэты калектыўны рахунак „гатовых вырабаў" галоўнага журналу мае цэлы шэраг дапаможных рахункаў для кожнага віду пасобна, якія адчыняюцца ў дапаможнай кнізе альбо вядуцца на картках, і вырабы ўлічваюцца як сумарна, так і колькасна. Такая пастаноўка вучоту не прадстаўляе сабою асаблівых цяжкасьцяй у тых фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах, альбо прамарцелях, дзе выраблаюцца стандартныя вырабы і якіх налічваецца да 20-25 рэчаў

Калі ж мы возьмем прамарцелі, якія не вырабляюць строга ўстаноўленых стандартных вырабаў, якта: кравецкія, белашвейныя, галянтарэйныя, шапкарныя, картанажныя, цацкавыя і цэлы шэраг іншых арцеляй, у якіх вырабаў налічваецца звыш 300 відаў, там такая існуючая пастаноўка вучоту вельмі ўскладняе працу рахункавода, і мэта не апраўдвае сродкаў.

Мне здаецца, што кожнаму рахункаводу, альбо чалавеку, знаёмаму з рахункаводзтвам, зразумела, якую значную працу павінен зрабіць рахункавод па гэтых рахунках. Калі возьмем сярэднюю арцель, дзе ёсьць каля 100 відаў гатовых вырабаў, дык па ўсіх гэтых рахунках трэба зрабіць 100 запісаў у месяц па дэбэту і 100 запісаў па крэдыту. Акрамя таго, існуе рахунак продажу, які таксама мае дапаможныя рахункі, якія адпавядаюць рахунку гатовых вырабаў. Па гэтаму рахунку (продаж) робіцца запіс па яго крэдыту кожны раз па меры продажу, і калі ў сярэднім будзем лічыць, што продаж бывае 3 разы ў месяц, дык патрэбна зрабіць да 300 запісаў па дапаможных рахунках. Такім чынам, трэба зрабіць у месяц да 500 запісаў, на што рахункавод сярэдняй кваліфікацыі павінен патраціць звыш 40 працоўных гадзін, альбо 5 дзён. Адначасова трэба таксама ўлічыць, што штомесячна альбо кожныя 3 месяцы неабходна складаць зваротную ведамасьць па дапаможных рахунках, на што таксама трэба патраціць ня менш 2 рабочых дзён. Такім чынам траціцца 7 рабочых дзён аднаго рахункавода на гэтую працу, у выніку чаго рахункавод ня можа зьвяртаць сваю ўвагу на больш важную працу, як складаньне і праверка выкананьня прамфінпляну.

Да якіх жа мэт мы імкнемся такой пастаноўкай вучоту?

1. Каб заўсёды ведаць, якія ёсьць астачы вырабаў.

2. Каб пры перавучоце ведаць, якіх вырабаў не хапае і якіх ёсьць лішак.

Дазвольце ж разгледзець, ці дасягаюцца вышэйпастаўленыя мэты.

Мы ведаем, што па дэбэту рахунку гатовых вырабаў робіцца запіс толькі адзін раз у месяц пры складаньні калькуляцыі. Фактычна ж амаль кожны дзень паступаюць гатовыя вырабы на склад. Адсюль зусім ясна, што нават і пры вучоце вырабаў колькасна паасобных відаў мы таксама ня можам ведаць з кніжных запісаў да канца месяца, якія ёсьць вырабы на складзе, і такім чынам гэтая мэта не дасягаецца.

Колькасны вучот вырабаў, праўда, дае магчымасьць правяраць пэрыодычна з дапамогай перавучоту, якіх вырабаў і ў якой колькасьці не хапае,



Фабрыка-кухня ў гор. Туле, адчыненая ў дзень XIII гадав. Кастрычніка.

і якія маюцца лішкі. Але гэтыя ж зьвесткі нам нічога не даюць, бо мы ўжо амаль што прынялі, як правіла, (за рэдкім выключэньнем) пакрываць недахопы адных вырабаў лішкамі другіх.

Ці варта для гэтай бескарыснай мэты траціць столькі каштоўнага часу? Зразумела, што мэта не апраўдвае сродкаў і трэба шукаць іншую сыстэму вучоту.

Па маёй думцы, зусім мэтазгодна правесьці вучот гатовых вырабаў сумарна па водпускных цэнах, і тады адпадуць усе дапаможныя рахункі і непатрэбна будзе складваць зваротных ведамасьцяй. Зразумела, што рахунак вытворчасьці застаецца пастарому, і калькуляцыйныя ведамасьці на ўсе віды вырабаў неабходна будзе

таксама складваць штомесячна альбо кожны квартал. Гутарка ідзе толькі аб рахунку гатовых вырабаў. Пры гэтай сыстэме неабходна будзе адчыніць у журнале-галоўнай новы рахунак накладаньня, які штомесячна будзе крэдытавацца на розьніцу паміж сабекоштам і прадажным коштам і дэбітавацца на суму валавых прыбыткаў ад продажу вырабаў.

Рахунак продажу застаецца бяз зьмен, толькі да яго не будзе дапаможных рахункаў.

Для большай яскравасьці неабходна даць некалькі прыкладаў:

1) паступіла гатовых вырабаў з вытворчасьці па сабекошту на 10.000 руб., а па водпускных цэнах гэтыя вырабы складаюць суму 11.000 руб. (сабекошт і водпускная каштоўнасьць відаць з калькуляцыйнай ведамасьці, якая абавязкова складаецца);

2) прадана вырабаў на працягу месяца на 7.000 руб. Гэтыя апэрацыі праводзяцца наступным парадкам:

1) запісваюцца на крэдыт рахунку вытворч. 10.000 і рахунку накладаньня 1000 руб. і на дэбэт рах. гатов. вырабаў 11.000 рублёў.

2) заносіцца на крэд. продаж. і дэб. адпаведн. рахунку 7.000 рублёў (па меры продажу);

3) трэба сьпісаць к канцу месяца з рахунку гатов. выраб. прадан. выраб. па прадажн. каштоўнасьці і запісаць на дэбэт прадаж. суму сабекаштоўнасьці праданых гатовых вырабаў, а валавы прыбытак запісаць на дэбэт рахунку накладаньня. Для гэтага неабходна выявіць сярэдні процант валавога прыбытку ад продажу вырабаў, з мэтай чаго трэба суму накладаньня, памножаную на 100, дзяліць на суму паступіўшых вырабаў па прадажных цэнах. У гэтым выпадку мы павінны дзяліць суму 1.000 р. на 11.000 руб., і мы атрымаем 9,09 проц., пасьля чаго мы выяўляем агульную суму прыбыткаў ад продажу вырабаў, для чаго мы памнажаем атрыман. проц. прыбыткаў на суму продажу (у дан. выпадку атрымаем наступнае: 7000×9,09= 636 руб. 30 кап.).

Пасьля выяўленьня гэтых прыбыткаў мы павінны зрабіць наступны запіс:

| | |
|---|---|
| На крэдыт гатовых вырабаў | 7000 р. |
| На дэбэт рахунку продажу | 6363 р. 70 к. |
| „ рахун. накладаньня | 636 р. 30 к. |

Такім чынам, сальдо рахунку гатов. вырабаў паказвае нам астачу вырабаў па прадажных цэнах. Сальдо рахунку накладаньня паказвае нам астачу накладаньня на астачу вырабаў.

Калі нам трэба паказваць гатовыя вырабы па сабекошту, дык зьнімаем суму накладаньня, і тады застануцца гатовыя вырабы па сабекошту.

Некаторыя запытваюць мяне, якім жа чынам будзем ведаць, якія вырабы зьяўляюцца прыбытковымі і якія дэфіцытнымі, якім мэтадам магчыма будзе запоўніць статыстычн. зьвесткі.

Я наперад ужо казаў, што так, альбо інакш, калькуляцыйныя ведамасьці павінны быць складзены кожны месяц, і па гэтых калькуляцыях відаць сабекошт і адпускная цана, і такім чынам адразу ведаем, якія вырабы прыбытковыя і якія дэфіцытныя, і згодна калькуляц. ведамасьці трэба завесьці прэйскурантную кнігу па ўсіх вырабах.

Што датычыцца статыстычных зьвестак, дык трэба адзначыць, што гэта справа ў нас абстаяла вельмі дрэнна. Карткі патрэбны к 5-му альбо 10-му, а рахункаводы давалі гэтыя зьвесткі к 25-му і пазьней, пасьля складаньня балянсу, калі зьвесткі ўжо ня маюць свайго значэньня. Такім чынам, так альбо інакш, неабходна завесьці спэцыяльны вучот для статыстычных зьвестак, аб чым неабходна пагаварыць асобна.

Разглядзеўшы дасканальна гэтае пытаньне са ўсіх бакоў, я прыходжу да вываду, што сыстэма вучоту гатовых вырабаў патрабуе рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, якія мною вылучаюцца.

Няма ніякіх падстаў, па маёй думцы, каб пакінуць існуючую сыстэму вучоту бяз зьмен.

І. Аўрунін

# Прамкаапэрацыя на Гомельшчыне

Дзякуючы пастанове ЦК УсеКП(б) ад 16/II-30 г., у якой адзначаны цэлы шэраг момантаў па разгортваньню саматужна-прамысловай каапэрацыі, а таксама таму, што ў апошні момант прамысловая каапэрацыя ўключана ў агульны плян усяе гаспадаркі краіны, крэдытная рэформа і момант прававога становішча саматужнікаў цалкам зьмянілі твар працы саматужнай каапэрацыі. Яна падвысіла тэмпы працы як у галіне каапэраваньня, так і ў галіне выпуску прадукцыі і па ўсіх астатніх якасных паказальніках якасьці прадукцыі і зьніжэньня себекошту.

Наступныя лічбы даюць характарыстыку гэтых момантаў: адзначана, што, акрамя ўзятых падвышаных тэмпаў, саматужная каапэрацыя стала на шлях выкананьня працы па недэфіцытнай і мясцовай сыравіне:

**I. Каапэраваньне:**

29-30 г. сярэдн. па недэф. сыр. . . . 364, па дэфіц.— 842 —1206<br>
Асобны кварт. „ „ „ . . . 486 „ „ —1315—1801<br>
Рост . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 50 проц.<br>
У 31 годзе сярэдн. па недэф. сыр. . . 694 „ „ —1913—2607<br>
Рост . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 215 проц.

**Прадукцыя (у тысячах рублёў):**

29-30 г. па недэфіц. сыравіне . . 1109, па дэф. 3499 т. р.—4608 т. р.<br>
Паасобны кварт. па недэфіц. сыр. 470,9 т. р. „ 1210,5 „ „—1681,4 „<br>
Рост . . . . . . . . . . . . . . 170 проц. 155 проц.<br>
1931 г. . . . . . . . . . . . . 3053,5 т. р. 7179,5 „ —10233 т. р.<br>
Рост . . . . . . . . . . . . . . 275 проц. — — 220 проц.

Як відаць з гэтых лічбаў, ня гледзячы на тое, што павялічэньне працы па недэфіцытнай сыравіне самае большае месца мае на раёне, напрыклад, па вырабу цэглы, па лесаапрацоўцы, па лесахэмічнай вытворчасьці, кашаплётах, усё-ж такі, пры агульным росьце выпуску прадукцыі ў асобным квартале на 155 проц., прадукцыя недэфіцытная дае рост на 170 проц. Таксама ў 1931 г., пры агульным росьце прадукцыі на 220 проц., прадукцыя недэфіцытная дае рост на 275 проц. Гэта падкрэсьлівае, наколькі саматужная каапэрацыя правільна выконвае пастанову ЦК ў сэнсе свае мэты.

Асобны момант трэба адзначыць у працы саматужнай каапэрацыі ў галіне паянакапленьня. Да гэтага часу парадак паянакапленьня быў устаноўлены аднаразовы, г. з., пэўная сума павінна быць унесена тым, альбо іншым членам згодна яго заработнай плаце, і на гэтым паянакапленьне спыняецца. З наступнага году ў парадку паянакапленьня ўстаноўлена сталае адлічэньне ад заработнай платы ў сярэднім 7 проц., і вось, дзякуючы гэтаму, мы маем наступныя вынікі:

На 1 кастрычніка 30 г. па арцелях паянакапленьне складае 278.866 руб. якія ахопліваюць сабою паянакапленьне за ўвесь час існуючай сыстэмы. На асобны квартал вызначана 32.000 р. адлічэньня і 20.000 руб. збору запазычанасьці, якая лічылася за саматужнікамі, і на будучы 31 г., згодна намеркаванай зарплаце, мяркуецца паянакапленьне ў суме 200.000 р. Такім чынам, магчыма адзначыць, што да 1/1—32 г. па сыстэме прамкаапэрацыі па Гомельшчыне будзе паянакапленьня ўсяго—540.000 р., г. з., што

гэты год дасьць на 100 проц. павялічэньне паянакапленьня супроць усяе сумы паянакапленьня, якая была за ўвесь час існаваньня сыстэмы.

Трэба адзначыць, што, згодна пляну вытворчасьці, вызначаецца зьніжэньне сабекошту, ня гледзячы на тое, што па рэканструкцыі мэханізацыі вызначаюцца сыстэмай самыя маленькія сумы, але ўсё-ж такі за кошт увядзеньня па розных прадпрыемствах падзелу працы забясьпечваецца зьніжэньне сабекошту ў сярэднім на 7 проц.

Асноўнай мэтай сыстэмы прамкаапэрацыі зьяўляецца каапэраваньне беднаты, павялічэньне ліку вучняў для падрыхтоўкі будучых кадраў і ўцягненьне жанчын у тыя промыслы, дзе магчыма скарыстаць іх працу, напр., у галіне вырабу пэналяў, пачынкі панчох і г. д.

Побач з гэтым трэба адзначыць вялікія посьпехі ў тым, што саматужная каапэрацыя будуецца так, што пры першай неабходнасьці яна мае магчымасьць перабудавацца да патрэб насельніцтва. Напрыклад, у апошні час патрэбна было мабілізаваць вялікую колькасьць шаўцоў на пачыначную працу, і вось на працягу кароткага тэрміну каля 300 чал. шаўцоў перакінуты на гэты фронт і поўнасьцю абслугоўваюць патрэбы працоўнага насельніцтва. Таксама ў бліжэйшы час разгортваюцца майстэрні па пачынцы вопраткі.

**Прасунуць кніжку ў масы—наша задача, задача спажывецкае каапэрацыі.**

# Адсталыя галіны працы— на грамадзкі буксір

В. Гурвіч-Віленскі

## Палепшыць справу, рацыяналізаваць працу

*(з матар'ялаў абсьледваньня брыгады БКС).*

Матар'ялы абсьледваньня шэрагу цэрабкоопаў паказалі, што пераломy ў працы спажкаапэрацыі пасьля адозвы ЦК УсеКП (б) усё-ж яшчэ няма.

Тая-ж бяссыстэмнасьць і бяспляьнавасьць пануе яшчэ ў шэрагу каапэрацыйных арганізацый. Каапэрацыйны апарат не пераключыўся на баявыя тэмпы.

Вось факты:

**У Гомельскім ЦРК** вакол адозвы ЦК УсеКП (б) ня створана грамадзкай думкі, не мабілізавана ўвага ўсяго апарату і каапактыву. Такія важныя дырэктывы партыі, як адозва ЦК УсеКП (б) ад 3-IX ня былі прадметам абгаварэньня на самім праўленьні ЦРК.

Толькі аргаддзел на працягу месяцу распрацоўваў некаторыя мерапрыемствы, якіх і да гэтага дню праўленьне не знайшло часу разгледзець. Арганізацыя зачыненых разьмеркавацеляў, дзякуючы самацёку ў гэтай працы і адсутнасьці яснасьці па гэтым пытаньні ў саміх арганізатараў, стварыла нездаровы настрой сярод некаторай часткі рабочых.

Гэтыя настроі зьявіліся ў выніку таго, што праўленьне ня мае канкрэтнага пляну арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў. Яно абяцала арганізаваць апошнія для тых прадпрыемстваў, якія да гэтага часу ня ўключаны. Да таго-ж плян не ахопліваў усю асноўную групу прадпрыемстваў, якія ў першую чаргу павінны былі быць абслужаны зачыненымі разьмеркавацелямі, і нават у пляне на асобны квартал фігуравалі міліцыя, крымвышук і інш., а прадпрыемства, як „Рухавік Рэвалюцыі“, ня было ўключана.

Да моманту абслугоўваньня крамная камісія і загадчык былі абраны толькі ў адным разьмеркавацелі.

У разьмеркавацелі № 1, які абслугоўвае завод імя Ланцуцкага, Сельмаш і чыгуначнікаў, крамная камісія і загадчык абіраліся рабочымі заводаў Ланцуцкага і Сельмаш бяз удзелу чыгуначнікаў, што прымусіла зрабіць перавыбары.

Пастаноўка працы ў разьмеркавацелях засталася такою, якая была раней. Папярэднія заказы не праводзяцца; гадзіны гандлю ў бок іх наближэньня да патрэб прымацаваных не перагледжаны; асартымэнт таксама не перагледжаны.

Трэба канстатаваць, што пакуль ніякага палепшаньня ў тэхніцы абслугоўваньня няма.

З-за адсутнасьці ў шэрагу разьмеркавацеляў крамных камісій асобныя дэфіцытныя тавары, якія разьмяркоўваюцца без талёнаў, выдаюцца ў парадку жывой чаргі. У выніку ствараюцца вялізарныя чаргі, а таксама нельга ўстанавіць кантроль.

Шэраг буйных прадпрыемстваў, як завод Ланцуцкага, ня маюць ларкоў. Рабочыя ў часе абеднага перапынку ня маюць магчымасьці атрымаць прадуктаў.

Рабочыя заводу „Чырвоны Хэмік“ за атрыманьнем малака, якое адпушчаецца ім з прычыны шкоднасьці іх працы, прымушаны стаяць у чарзе таму, што малако ў ларок не дастаўляецца.

У сталоўках надзвычайная перагрузка: чарга, не хапае нажоў, відэльцаў, ложак. Якасьць абеду нізкая.

У сталоўках зачыненага тыпу хлеба даецца 200 грам, у той час як у

сталоўках адчыненага тыпу хлеб адпушчаецца ў патрэбнай колькасьці.

З боку асобных працаўнікоў грамадзкага харчаваньня наглядаюцца недапушчальныя адносіны да вытворчасьці.

Дырэктыва ЦК ад 6-IX па арганізацыі рабочага кантролю ня выконваецца. Арганізаваныя скразныя брыгады да працы не прыступілі.

Бязьдзейнічае таксама шэф над Гомельскім ЦРК фабрыка „Камінтэрн".

**У Мазырскім ЦРК** справа абстаіць ня лепш, чымся ў Гомельскім. Прынятыя пастановы праўленьня, у зьвязку з адозвай ЦК УсеКП(б), не канкрэтныя, а агульнага характару. Аргаддзел ня прыняў удзелу ў распрацоўцы мерапрыемстваў па адозьве ЦК, не арганізаваў кантролю над выкананьнем тых мерапрыемстваў, якія выпрацавала праўленьне.

Аргаддзел выпусьціў са свайго поля зроку працу, якую павінен быў весьці заняўшыся разьмеркаваньнем дэфіцытных тавараў. Недапушчальная пастаноўка працы існуе ў справе разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў. Да гэтага часу адсутнічае вучот і кантроль над іх выдаткаваньнем. Не ўстаноўлены каэфіцыент для кожнае групы. Разьмеркаваньне адбываецца бяз усякае сыстэмы. Аб рацмінімуме ніхто нічога ня ведае. Нічога ня зроблена па палепшаньню абслугоўваньня чыгуначнікаў. Не адчынен ларок для абслугоўваньня праязных брыгад, апошнія абслугоўваецца буфэтам, які заўсёды перагружаны. Гэты буфэт адначасова зьяўляецца сталоўкай з максымальнай прапускной здольнасьцю 100 чалавек, а адпускае больш 500 абедаў. У сталоўцы чарга, гразь.

У краме № 27, якая абслугоўвае выключна чыгуначнікаў, штат не адпавядае свайму прызначэньню, сярод штату пануюць п'янства, склока, адсутнічае дысцыпліна. Загадчык крамай, які зьяўляецца членам праўленьня, ня цікавіцца працай.

У вагон-крамах дэфіцытныя тавары разьмяркоўвае сам загадчык. Асартымэнт у апошніх не перагледжаны: тут можна між іншымі таварамі знайсьці шлюбныя пярсьцёнкі.

**У Бабруйскім ЦРК** распрацаваны шэраг канкрэтных мерапрыемстваў па палепшаньню абслугоўваньня спажыўца, згодна адозьве ЦК, аднак праўленьне не прасачыла, наколькі ўсе гэтыя мерапрыемствы праводзяцца ў жыцьцё. У выніку адсутнасьці кантролю значная частка мерапрыемстваў ня выканана.

Пры арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў у працаўнікоў ЦРК ня было яснасьці, у выніку чаго ў першапачатковым пляне аргразьмеркавацеля, які пазьней быў адменены БКС, фігуравалі саматужнікі.

Разьмеркавацель № 2 ахоплівае 9 прадпрыемстваў з колькасьцю рабочых ад 70 да 120 чалавек у кожным, толькі чыгуна-літоўны завод мае 450 рабочых. Усе гэтыя прадпрыемствы знаходзяцца ў розных канцох гораду і зусім адарваны ад разьмеркавацеля. У выніку такога мноства прымацаваных прадпрыемстваў рабочы кантроль адсутнічае, да гэтага часу не абрана крамная камісія.

Бабруйскі ЦРК, ахопліваючы прадпрыемствы з колькасьцю ў 70 рабочых, абмінуў такое прадпрыемства, як швейная фабрыка імя Дзяржынскага, якая налічвае 1200 рабочых.

Пазыцыя былога акрпрафбюро была недапушчальнай у дачыненьні да арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў. У гутарцы з прадстаўнікамі ЦРК працаўнікі акрпрафбюро задавалі такія пытаньні: „А што вы туды дасьцё?" і г. д. Такая лінія акрпрафбюро не магла не адбіцца на своечасовай арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў. Толькі ў апошні час гарпрафсавет пачаў глядзець на гэтую справу больш правільна, чым глядзела акрпрафбюро, але ўсё-ж ня лепшую дапамогу сустракае Бабруйскі ЦРК з боку гарсавету, які на працягу трох месяцаў ня можа вырашыць пытаньне аб вызваленьні 2 кватэр, якія зьяўляюцца сумежнымі з памяшканьнем кухні-разьмеркавацеля. У выніку да пабудовы апошняй яшчэ ня прыступілі, і рабочыя 2-й і 3-й зьмен не атрымліваюць гарачай стравы.

Нядбайна абслугоўваецца грамадзкім харчаваньнем дрэваапрацоўчы

камбінат, які мае ўсесаюзнае значэньне. Пры будаўніцтве камбінату, які налічвае звыш 4000 рабочых, была прадугледжана сталоўка на 250 чалавек, а цяпер гэта сталоўка рыхтуе 3.500 абедаў. У сталоўцы чарга, абеды бяруцца праз бой, усюды брудна. Лесбелам было адпушчана 110 тысяч рублёў на пабудову сталоўкі, аднак на сёньняшні дзень дырэкцыя камбінату нават не паклапацілася скласьці праект. Грамадзкае харчаваньне пастаўлена дрэнна, трэба зьвярнуць на гэта ўвагу і прыняць рашучыя меры.

Паглядзім цяпер, як саюзы Нархарч і Саўгандальслужачых павярнуліся тварам да вытворчасьці.

За апошні час у шэрагу цэрабкоопаў маюцца прарывы. Каапэрацыя яшчэ не пераключыла сваю працу на баявыя тэмпы. Адозва ЦК УсеКП(б) яшчэ не стварыла ў шэрагу каапэрацыйных арганізацый патрэбнага пералому сярод самога апарату.

Сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў большасьці каапэратываў, у тым ліку і ў Менскім ЦРК, які знаходзіцца пад бокам ЦП Саюзаў, праводзяцца на паперы. Вытворчыя камісіі ў сталоўках працуюць слаба. Адсутнічае дысцыпліна, наглядаюцца рвацкія настроі.

Пераапрацоўка ў кухароў дасягае 125-130 проц. Калі Бабруйскі ЦРК узьняў пытаньне аб пераглядзе норм выпрацоўкі ў бок іх павялічэньня, дык саюз Нархарч пашоў па лініі маўчаньня—ён ужо трэці месяц не адказвае на хадайніцтва БЦРК.

У апошні час у цэлым шэрагу гарадоў наглядаюцца выпадкі знаходжаньня ў абедах шкла, шэрсьці, голак і інш.

Нядбайнасьць і безадказнасьць, якія існуюць сярод асобных працаўнікоў сталовак, часта мяжуюцца са шкодніцтвам, бо як інакш можна характарызаваць выпадак, які меў месца 13 кастрычніка ў Гомелі, калі абед быў згатаваны з газаю (справа перададзена ў сьледчыя органы). Рука шкодніка мацае глебу ў грамадзкім харчаваньні, і, дзякуючы адсутнасьці нагляду з боку працаўнікоў сталовак, ім гэтыя шкодніцкія акты часта ўдаюцца.

Ня лепш абстаіць справа і ў гандлёвай сетцы. Гандлёвы апарат за апошнія гады надзвычайна ўзрос, а выхаваўчай работы сярод яго не вядзецца. Растраты і разбазарваньне не зьмяншаюцца. Аднак, ЦП Саўгандальслужачых ні на аднэй справе не заастрыла грамадзкае ўвагі, каб выхаваць новых работнікаў, якія ўліліся ў апарат.

Эканамічныя камісіі сьпяць.

Ня ў лепшым становішчы і насьценныя газэты. Ня створана рабкораўскае ядро. Досыць сказаць, што ў Менскім ЦРК, які налічвае каля 3.000 работнікаў, ёсьць толькі 3 рабкоры, сярод якіх таксама патрабуецца сякая-такая выхаваўчая праца.

Захапленьне, якое было пры заключэньні ўмоў па сацспаборніцтву з Віцебскім ЦРК, пасьпела ўжо астыгнуць. ЦП Саўгандальслужачых абмежавалася пасьля прыняцьця ўмовы вынясеньнем пад гукі духавога аркестру прыгожай рэзалюцыі, а ў далейшым ня кіруе прафячэйкамі, не правярае, наколькі ўмовы выконваюцца. Сацспаборніцтва ў каапэрацыі не пастаўлена на належную вышыню. У часе чысткі ЦРК адзін загадчык магазыну заявіў, што ім у выніку спаборніцтва зэканомлена электраэнэргіі на 50 проц.: у маі месяцы ў яго выдаткавана менш чымся ў студзені, і гэта, па яго думцы, дзякуючы сацспаборніцтву, а не павялічэньню сонечнага дню.

У Гомелі пры абгаварэньні мерапрыемстваў па адозьве ЦК УсеКП(б) адзін магазын абвясьціў сябе ўдарным, у выніку гэтага ўдарны магазын можа атрымаць першую прэмію за чаргу і дрэннае абслугоўваньне.

Ёсьць частка працаўнікоў, якія не хварэюць душою за даручаную ім справу. Яны лічаць больш мэтазгодным стаяць у баку ад вялікага будаўніцтва рабочае клясы.

Зьяўляецца пытаньне: дзе ж праф-арганізацыі—школа камунізму? Што яны зрабілі для павароту тварам да вытворчасьці? Што яны зрабілі для мабілізацыі ўвагі ўсіх членаў саюзу на выкананьне важнейшых задач, пастаўленых партыяй перад спажкаапэ-

рацыяй? На ўсе гэтыя пытаньні можа быць адзін адказ: ЦП памянёных саюзаў займаюцца ўрачыстасьцямі, займаюцца паступовай рэгістрацыяй ўсіх прарываў, якія маюць месца ў шэрагу цэрабкоопаў і выносяць адпаведныя рэзалюцыі.

Некалькі слоў **пра Белкаапсаюзаўскі інструктаж.**

Абсьледваньне шэрагу арганізацый паказала, што ў самім кіраўніцтве з боку Белкаапсаюзу наглядаецца шэраг адмоўных зьявішчаў: безадказнасьць, нядбайнасьць не абмінулі штабу спажкаапэрацыі—Белкаапсаюз. Вельмі часта нарады зьмяняюцца нарадамі: замест практычнай дапамогі на мясцох атрымліваюць пудамі дырэктывы і абежнікі, якіх ніхто ня чытае. Часта абежнікі бываюць блытаныя, абсалютна незразумелыя ня толькі для тых, хто іх павінен выконваць, але і для тых, хто іх дае. Вось факты:

Даецца тэлеграма ўсім ЦРК наступнага зьместу: „Тэрмінова пачнеце прадаваць цукар па падвышаных цэнах усяму насельніцтву без абмежаваньня з запісам у кніжцы“. Зьяўляецца пытаньне, калі адпушчаць усяму насельніцтву, дык у якую кніжку запісваць. Калі без абмежаваньня, дык навошта патрэбен запіс?

Або вось яшчэ: даецца тэлеграфнае распараджэньне прыступіць да выдачы якога-небудзь тавару з мясцовых рэсурсаў, а пасьля выяўляецца, што ніякіх рэсурсаў той ЦРК ня мае, а той, хто даваў гэту тэлеграму, відаць, не пацікавіўся гэтым пытаньнем. Аб тым, як правільна разьмяркоўваюцца рэсурсы, відаць з таго, што Мазыр не адчувае дэфіцытнасьці ў абутку. Якая сувязь наладжана з месцамі, можа служыць наступны факт: Мазырскі ЦРК даў 4 тэлеграмы па пытаньні, зьвязаным з мабілізацыяй сродкаў, а адказу ні на адну не атрымаў.

Той інструктаж, які існуе цяпер пры Белкаапсаюзе, можна назваць вандруючай трупай, якая гастралюе з аднаго цэрабкоопу ў другі, а практычнай дапамогі няма. Прыехаў інструктар, даведаўся пра сёе-тое, напісаў вывады, часта для большага эфэкту свайго абсьледваньня і едзе далей. Ёсьць факты, што не пасьпее выехаць з таго ці іншага гораду адзін інструктар, а на яго месца прыяжджае другі, зноў пачынаецца ўсё спачатку, зноў адрываюцца працаўнікі ЦРК ад працы.

Працаўнікам прылаўку няма калі займацца практычнаю працаю, бо 75 проц. свайго часу яны заняты з абсьледвацелямі.

Характэрна, што ў які горад ні прыедзеш, дык знойдзеш інструктароў Белкаапсаюзу. Няўжо нельга ўвязаць гэтыя паездкі, спыніць лішняе адрываньне работнікаў нізоўкі ад працы і траты вялізарных сродкаў на паездкі?

Пэрыфэрыі патрэбен інструктаж, але патрэбен такі, які дае практычную дапамогу. Вось па пытаньнях рацыяналізацыі выяжджаў на месца рацыяналізатар БКС і прывёз вывады, што ў Гомельскім ЦРК справа ідзе дрэнна, але калі паглядзець, як БКС кіруе рацыяналізатарамі на мясцох, дык і выяжджаць было-б непатрэбна. Можна было-б седзячы ў Менску пісаць вывады пра Гомель, бо пытаньнямі рацыяналізацыі ў БКС займаюцца мімаходам. Вакол пастаноўкі рацыяналізацыі ў БКС можна пачуць шмат анэкдотаў.

Існуючая форма інструктажу павінна быць зьменена, бо яна толькі ўводзіць у злосьць нізоўку і дыскрэдытуе БКС. Інструктар, прыехаўшы ў які-небудзь ЦРК ці РайСТ, павінен пасьля выяўленьня недахопаў практычна дапамагчы іх зьнішчыць, дапамагчы практычна наладзіць працу.

Перабудова апарату спажкаапэрацыі на баявыя тэмпы патрабуецца зьнізу даверху і, у першую чаргу, ад Белкаапсаюзу, толькі тады каапэрацыя выканае задачы, пастаўленыя перад ёю партыяй.

**І. Л.**

# Палепшыць абслугоўваньне

Грамадзкае харчаваньне грае важнейшую ролю ў выкананьні пляну сацыялістычнага будаўніцтва нашае краіны. Грамадзкае харчаваньне зьяўляецца магутным фактарам узьняцьця вытворчасьці працы, абагульваньня быту, важнаю зброяю культурнае рэвалюцыі. Становішча грамадзкага харчаваньня ў сучасны момант не адпавядае існуючым запатрабаваньням. Пры той сетцы сталовак, якая існуе цяпер, нельга нармальна абслужыць шырокія колы насельніцтва. У выніку гэтага і наглядаюцца вялікія чаргі, антысанітарнае становішча і г. д.

Балючым момантам у пытаньні разьвіцьця грамадзкага харчаваньня зяяўляецца таксама адсутнасьць кваліфікаваных кадраў (кухароў, загадчыкаў сталовак і афіцыянтаў).

Надыходзячы 1931 год павінен даць рашучы пералом у справе ажыцьцяўленьня асноўных задач, што стаяць перад грамадзкім харчаваньнем. У сувязі з гэтым 1931 год павінен зьявіцца годам напружанай барацьбы за ўзмоцненыя тэмпы ў галіне караннога палепшаньня працы грамадзкага харчаваньня. Гэтыя ўстаноўкі знайшлі сваё выяўленьне ў кантрольных лічбах на 1931 год.

Вось яны:

100-проц. ахоп грамадзкім харчаваньнем сэзонных рабочых, 80 проц. ахопу рабочых сьпіску гарадоў № 2, 60 проц. ахопу рабочых іншых гарадоў, 30 проц. ахопу служачых, утрыманцаў і утрыманцаў рабочых, 100 проц. ахопу студэнтаў, 100 проц. ахопу саўгасных рабочых і лесарубаў.

Водпуск абедаў шматсямейным і нізка аплачваемым рабочым павінен складаць ня менш 15 проц.

Прадукцыя грамадзкага харчаваньня па горадзе дае рост на 195 проц., а па вёсцы—на 423 проц.

Пашыраная вытворчая праграма на 1931 год патрабуе адпаведнага росту сеткі, што зьвязана з вялікімі ўкладаньнямі ў капітальнае будаўніцтва. Побач з гэтым неабходна забясьпечыць сваячасовы пуск у эксплёатацыю шматлікіх самадзейных жактаўскіх сталовак і пабудову кухняў-разьмеркавацеляў, што павялічыць водпуск абедаў на дом, а таксама дапаможа пераводу існуючых прадпрыемстваў на шматзьменную работу.



Пчалярная пасека ў камуне „Праца" (Каралінскага раёну). Камуна атрымала „Чырвоны сьцяг" і трактар ад ЦВК Беларусі к XIII гадавіне Кастрычніка.

Адамчук

# Разгарнуць працу

Праца жанкаапактыву зьяўляецца магутным сродкам мабілізацыі актыўнасьці працоўных жанчын для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.

Уся праца жанкаапактыву павінна быць шчыльна ўвязана з чарговымі палітычнымі задачамі партыі і саветаў. Жанкаапактыў павінен быць застрэльшчыкам у галіне выкананьня і



Жылы дом для камунараў у камуне „Сейбіт".

перавыкананьня пляну ўсіх відаў загатовак, мабілізацыі сродкаў насельніцтва, арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, узмацненьня калгасаў і далейшай сацыялістычнай перабудовы вёскі, правільнай арганізацыі працы і быту, разьмеркаваньня ўраджаю разьвіцьця спэцыяльных культур, жывёлагадоўлі, птушніцтва, застрэльшчыкам ва аўладаньні агранамічнай і каапэрацыйнай граматай,—усім гэтым павінен заняцца жанкаапактыў. Ён павінен паказаць, як трэба працаваць на полі, даглядаць за жывёлай, узьняць вытворчасьць працы ў калгасе, сачыць за правільным разьмеркаваньнем і забесьпячэньнем прадуктамі спажыўца.

Набліжаюцца перавыбары саветаў. Жанкаапактыў павінен мабілізаваць масы калгасьніц, саўгасьніц, батрачак і серадлячак для актыўнага ўдзелу ў перавыбарах і найбольш сьвядомых і адданых савецкай уладзе вылучыць для працы ў саветах.

Жанкаапактыў павінен даць рашучы адпор усім кулацкім выпадам, усім спробам клясавага ворага выкарыстаць адсталасьць працоўных жанчын для свае контррэвалюцыйнай агітацыі.

Наша праца па клясаваму выхаваньню жанкаапактыву, па растлумачэньню ўсяе сутнасьці супярэчлівых інтарэсаў кулацтва і асноўных батрацка-бядняцкіх мас сялянства пастаўлена слаба. Сталая масавая праца сярод жанкаапактыву ў большасьці райспажтаварыстваў не наладжана. На прыклад, Чырвона-Слабодзкае РСТ, Узьдзенскае РСТ і шэраг іншых спажтаварыстваў зусім нічога не зрабілі ў гэтым напрамку.

Усякая недаацэнка працы жанкаапактыву з боку некаторых РСТ зьяўляецца ігнараваньнем дырэктыў БКС.

**Па-баявому сустрэць трэці год пяцігодкі — першая задача каапэрацыі.**

# Літаратурны куток

М. Жыткевіч

## Плачуць кнігарні

*(Уражаньні падарожжа)*

Мэта мае камандыроўкі—наладзіць распаўсюджваньне кнігі. У камандыроўцы адзначана пяць раёнаў: Калінкавічы, Юравічы, Нароўля, Ельск, Азарычы. Зьбіраю патрэбныя матар'ялы, перачытваю яшчэ раз усе абежнікі і лісты, што на працягу лета пісалі *чатыры інструктары* раённым кніжным працаўніком, клапатліва падрыхтоўваю іх да выкананьня ўскладзеных на каапэрацыю абавязкаў па распаўсюджваньню кнігі наогул і, ў прыватнасьці па забесьпячэньню школ, і еду.

У вагоне цёпла, чутна прыглушаная гутарка. Я думаю аб сваім. У вачох мільгацяць кнігі, кнiганошы, калгасы, арганізатары распаўсюджваньня кнігі, каапэрацыйны актыў, плякаты, гурткі і іншыя прыгожыя рэчы. Вось перада мною зьвяно піянэратраду (ударнікі-кніганошы) прапрацоўвае пад кіраўніцтвам інструктара-кніжніка чарговае заданьне — давесьці літаратуру па хлебазагатоўчай кампаніі да бядняцка-серадняцкага актыву... Вось загадчык магазыну абмяркоўвае з настаўнікам вясковай школы, якую літаратуру трэба ўзяць для прасоўваньня праз школу сярод вучняў і насельніцтва... Вось на канфэрэнцыі прадаўцоў райспажтаварыства член праўленьня вядзе растлумачальную гутарку аб тым, што кожная вясковая крама павінна актыўна заняцца распаўсюджваньнем кнігі. Вось упаўнаважаны калгасу адбірае літаратуру для сваіх чытачоў... Вось член саюзу ваяўнічых бязбожнікаў з групаю моладзі чытае ў краме кніжку „Качаргою па абразох“. Моладзь сьмяецца, і тут - жа кожны купляе кніжку, каб прачытаць яе ў сваёй вёсцы...

* * *

Я ў Калінкавічах. Раніцаю іду па мястэчку і пільна прыглядаюся да шыльдаў... Дзяржгандальбел... Загатоўка ільну...

— Таварыш! Дзе-ж у вас тут кнігарня?—пытаю.

— А вось тут. Ды вы-ж каля кнігарні стаіце.

Я азірнуўся і сапраўды скрозь вузенькі праход адчыненых дзьвярэй убачыў паліцу з кнігамі. І мне стала сорамна ад таго, што я занадта марудна ўсвойваў тутэйшыя своеасаблівасьці. „Ага, — падумаў я, — хоць шыльды няма, вокны брудныя, але ўсё-ж кнігарня“.

І я падаўся ў дзьверы, але тут сустрэлася нечаканая перашкода. У кнігарні быў ужо пакупнік. а каб увайсьці туды другому, трэба было падацца назад і раней выпусьціць першага.

— Дайце, калі ласка, кніжку „Качаргою па абразох“. Ёсьць такая?..

— Няма—дружна адказалі тры кнігары, як па камандзе.

— Але-ж можа выпадкова дзе завалялася? Пашукайце.

— У нас ня было такой—адказаў адзін, як потым высьветлілася, загадчык.

Але астатнія прадаўцы ўжо згубілі частку сваё ўпэўненасьці. Прадаўшчыца пачала капацца недзе ў кутку і праз некалькі хвілін падала кніжку.

— Трэба, таварышы, больш уважліва знаёміцца з асартымэнтам—гавару ім і рэкамэндуюся, як інструктар.

Кнігарня невялікая, але ёмкая, столь высокая. Пры жаданьні ёй можна надаць культурны выгляд. Цяпер яна ў

дрэнным становішчы. Абапал праходу стаяць аж да столі скрынкі з патрэбнымі і непатрэбнымі ў кнігарні таварамі. Брудна, пыл, кнігі ў непарадку. Працаўнікоў тры, але адзін на адыходзе (ідзе ў армію), а рэшта—навічкі ў кніжнай справе. Першы ня чытаў абежнікаў і ня цікавіўся справаю, бо з часу на час чакаў моманту здачы кнігарні, а двое другіх уваходзяць у курс справы". Ёсьць і член праўленьня, адказны за гэтую справу, але яго не давялося пабачыць А тым часам у разгары сэзону справа ў заняпадзе. А працы многа: трэба абслужыць 83 школы з 9375 вучнямі, 59 калгасаў, 2000 пайнікаў і наогул 63.000 насельніцтва.

Што-ж робіць праўленьне? Праўленьню няма часу ўваходзіць у гэтыя „дробязі", хоць і нельга абвінаваціць праўленьне ў няпрыхільнасьці да гэтае справы.

— Дайце моцнага працаўніка—вось зусім слушны крык праўленьня.

* * *

Інструктар-кніжнік на раёне—вельмі жаданы госьць. Яго там чакае гібель працы. Хто яго там разьбярэ, як гэта здараецца, але куды ні прыедзеш, усюды застанеш альбо зусім новага, незнаёмага з працаю работніка, альбо робіцца перасяленьне кнігарні з старога памяшканьня ў новае. Перасяленьне — рэч добрая. Перасяляюцца з горшага ў лепшае. Такое перасяленьне сьведчыць аб пераломе, аб жаданьні палепшыць кніжную справу. Горш, калі застаеш зусім новага працаўніка.

Вось хоць бы ўзяць Юравічы. Была кніжніца—перакінулі працаваць на пошту, была інструктарша — адпусьцілі вучыцца. Адразу, у адзін момант, ачысьцілі кнігарню. І гэта ў разгары сэзону. Можа, думаеце, гэта „выдаткі рэвалюцыі"? Можа ад такой „дыялектыкі дыбам" палепшылася справа? Ні ў якім разе.

— Як гэта так здарылася, што ў самы сэзон вы сьвядома ачысьцілі кнігарню?—цікаўлюся я.

— Гэта зроблена бяз нашага ведама—адказвае старшыня праўленьня.

А ў выніку— у кнігарні „узорны" вэрлах. Новае, добрае памяшканьне завалена тараю, нераспакаванымі пасылкамі, кнігі ў непарадку, звалены кучамі, на паліцах і пад прылаўкам кніг многа і... кніг няма. Тут нам давялося распакаваць 13 пасылак. Некаторыя з гэтых пасылак праляжалі 2 тыдні.

Аб якой актыўнай працы з кнігаю тут можа быць гутарка, калі кніжніцы самой трэба вучыцца і вучыцца?

— Ёсьць у вас „Аб калгасным руху Молатава?"—пытаецца вучань.

— Няма,—адказвае кніжніца.

— Павінна быць,—гавару я ціхенька ёй і голасна вучню: „зойдзеш заўтра, кніжку атрымаем".

Праглядаю паліцы і хутка сярод літаратуры аб птушніцтве знаходжу 12 экз. патрэбнай кніжкі. Разглядаю асартымэнт плякатаў выданьня БКС „Дамо дзяржаве хлеб" і „Забясьпечым рабочых добраякаснаю гароднінаю". Ня гледзячы на тое, што яны расцэнены па 10 кап., ляжаць.

— На якой падставе расцэнены і чаму ляжаць? Чаму не разасланы і не расклеены, дзе трэба?

— ?!

Ляжаць таксама каапэрацыйны плякат і ўся каапэрацыйная літаратура, якая ў невялікай колькасьці высылаецца кнігарні.

Абходзім усе установы мястэчка. Плякатаў нідзе, нават у сталоўцы.

Так кнігарня пляцецца ў хвасьце, замест таго, каб быць у першых шэрагах байцоў за культурную рэвалюцыю, за індустрыялізацыю і калектывізацыю.

* * *

З Нароўлі едзем у Ельск. Па дарозе вёска, а вось і каапэратыў.

Група сялян стаіць каля дзьвярэй і папярэджвае: „Напрасна ідзяце, нічога няма".

— Як та нічога, а вось газа?

— Толькі што газа.

— А вось і соль?

— Да ўжо-ж, ёсьць і соль.

— А вось і кн... Але тут мая вясёласьць панізілася. З-за сьпіны бравага прадаўца на мяне саромліва зірнулі 3-4 кніжачкі аб веснавой сяўбе.

У Ельску перасяленьне. Праўленьне, нарэшце, само перақаналася, што абслужыць кнігаю 37 тысяч насельніцтва, ліквідаваць няпісьменнасьць 6400 чалавек, абслужыць 57 школ і 4 сямігодкі, 6 хат-чытальняў і бібліятэку, яўрэйскае, польскае і нямецкае насельніцтва, наладзіць забесьпячэньне кнігаю калгасаў, партыйцаў і г. д.—і ўсе гэта ва ўмовах паступовага, але шпаркага ўзмацненьня раёну—нельга з тэй хібаркі, з якой у свой час местачковы гандляр прадаваў лыка. Перақаналася і адвяло пад кнігарню частку свайго ўнівэрсалу.

Кажуць, што калектыў каапэрацыі, асабліва з бакалейнага аддзелу, супярэчыў гэтай пастанове праўленьня, але яно перамагло. У добры час, таварышы праўленцы. Можа ваш прыклад падштурхне другіх на такую ж „самаахвяру".

Прасторнае памяшканьне, вокны гарадзкога тыпу—можна зрабіць добрую кнігарню. Працаўнікоў тры. Ёсьць і інструктарша, але пабачыць яе не ўдалося. Недзе грузіла бульбу.

У праўленьні жвавая гутарка. Нам. старшыні спрачаецца з групаю камсамольцаў. Сярод іх сэкратар.

— Нельга-ж так, таварышы. Калі вы распараджаецеся штатам, дык вам трэба і адказваць за каапэрацыю, але ж пакуль што адказваем мы.

І, убачыўшы мяне: „Вось інструктар. Ён-жа трэбуе паказаць, што мы зрабілі, а што я адкажу?"

— Ёсьць пастанова ЦК—нясьмела ўмешваюся я,—каб кніжных працаўнікоў не адрываць у часы кампаній ад іх абавязка".

— Што ЦК?—выразна махае рукою камсамолец,—і гутарка канчаецца.

* * *

Аб Азарычах ня будзем пісаць. Там таксама перасяленьне. Няхай павыграбаюць кнігі з куткоў, перавязуць у другое памяшканьне (яно ўжо знойдзена), расставяць кнігі на паліцах, азнаёмяцца, што там ёсьць, паставяць яшчэ аднаго працаўніка (таксама знайшлі), тады там будзе кнігарня, тады пра яе можна будзе што-колечы напісаць.

Усе цяперлаюць кнігарні: і райінспэктар, і загадчык райземчасткі, і райпалітасьветы, судзьдзя. А хто вінават, што кнігарню трэба лаяць? Яны-ж і вінаваты. Кнігарня дрэнна працуе, бо ў ёй няма сталага, надзейнага, сьвядомага кніжнага работніка, але дзе і ёсьць, дык яго альбо адрываюць, альбо зусім забіраюць на другое, „вузкае" месца. А таго ня хочуць бачыць, што кнігарня павінна быць у першых шэрагах будаўнікоў сацыялізму.

Замест таго, каб дапамагчы, навучыць, падшукаць добрага працаўніка, стварыць вакол кнігарні таварыскую самакрытыку, уцягнуць кнігарню і яе працаўнікоў у кола сацыялістычнага будаўніцтва, дапамагчы, як найлепш скарыстаць тое вялікае багацьце, што ляжыць у кнігарнях, замест усяго гэтага—казённы падыход да справы.

Пасадзілі дзяўчыну—няхай прадае алоўкі.

А брашура - „Дамо рашучы адпор кулаку пры хлебазагатоўках" ляжыць, плякат „Дамо дзяржаве хлеб" ляжыць, кніга „антырэлігійнае выхаваньне ў школе" ляжыць.. І нікога гэта ня турбуе, нікому гэта не карціць.

Ал. Веснавы

# Загатоўкі

*(апавяданьне)*

У той вечар, калі таварыш Крэльскі варочаўся са сходу, цёплы дробны дожджык цярусіў з распудзеленых хмар. Расплыўшыся, яны сыпалі на зямлю густым туманам, сыпалі няпрыкметным пылам. Ужо некалькі дзён, як наступіла дрэннае надвор'е. З раніцы трохі распагодзіцца, а пасьля абеду пойдзе дождж. Або яшчэ і так—ноччу пагода, месяц сьвеціць, а ўдзень імжыць бесьп. расьціханку асеньняя імгла.

Такім надвор'ем асеньняга вечара па гразкіх тратуарах мястэчка Заямнага ішлі дзьве постаці. Яны вышлі з нова-пабудаванага будынка і крочылі ў процілеглы бэк. У тым пакойчыку, дзе толькі што скончылася паседжаньне, гарэў яшчэ агонь. Здалёк ён блішчэў, як воўчае вока ў цёмную ноч. Зблізку яркі бляск лямпы прарэзваў сьветам пражэктара паласу лістападаўскае цемені.

На выклеенай сьцяне гадзіньнік, з аднэю гіраю і доўгім ланцужком, набыты тры гады таму назад ранейшым праўленьнем, паказваў другую гадзіну.

Усё мястэчка даўно спала. Сьвятло хатніх вокнаў не перамешавалася з цеменьню ночы, а таму на дварэ, калі пільна прыглядзецца, было ня зусім цёмна. Усё-ж вышаўшы з хаты, дзе гарэла дванаццацінумарная лямпа, Ігнат Кандратавіч сказаў таварышу:

— Ну і цемень, хаця каб ня ўзьбіцца на што!

— Гэта пакуль вочы прывыкнуць, а ты гэтым часам трымайся, як я, праваю рукою за плот—парадзіў Пазьняк.

— Мы-ж ня п'яныя, каб за платы трымацца.

— Амаль што. Адсядзець пяць гадзін у накураным пакойчыку можа галаву закружыць.

— Гэта ты праўду кажаш—павольна прамовіў Крэльскі.

— А там я ня праўду казаў? Шукаць аб'ектыўных прычын, зводзіць усё да таго, што агульнае становішча віною ўсяму, таксама нельга, як гэта рабіў ты на паседжаньні.

— А ты думаеш, іх ня было. Ня выбраная на полі бульба, увесь час дажджы, па твойму, гэта мала довадаў для аб'ектыўных прычын у сялян. Скажы, што-б ты рабіў на маім месцы?

— Я?—перапытаў Пазьняк—нешта-б рабіў. Ведай толькі:—Ва ўсялякай справе, якая табе даручаецца, трымай заўсёды адно ў памяці: „Патрэбна нешта рабіць", а тады ўжо з гэтага „нешта" выцякае адразу клапатлівасьць складаць пляны, абмяркоўваць іх, радзіцца з другімі, калі адчуваеш няўвязку. Неабходна толькі дамагчыся, каб кожны за даручаную яму справу адказваў, нутром хварэў. Тады толк будзе, тады зьменшацца аб'ектыўныя прычыны.

— Яно, канешне, гаварыць чалавеку даросламу лёгка.

— І выконваць ускладзеныя абавязкі не цяжэй, калі ты маеш ахвоту працаваць.

— А я што, па твойму, не рабіў нічога?

— Я не кажу, што ты не рабіў. Можа ты і занадта рабіў, ды толькі твае работы не прызнаюць за добрую.

— Дык што я вінен?

— Табе казалі ўжо на паседжаньні. Дзесяць раз перагаворваць адно і тое я ня люблю, ня цікава гэта...

— Абвінавачваць усе ўмеюць, а хай вось паспрабуе другі папрацаваць, тады пераканаецца—настойваў на сваёй нявіноўнасьці Крэльскі.

Яны яшчэ нешта доўга спрачаліся ідучы, але галасы іх цішэлі ў асень-

няй цемені, расьсейваліся імглою. На перакрыжаваньні вуліц Пазьняк, падаўшы руку Крэльскаму, падбадзёрваў яго:

— Не хвалюйся, Ігнат Кандратавіч, трэба толькі за працу ўзяцца як сьлед, як бяруцца ўсе працаздольныя людзі, разгарнуць яе ва ўсю шырыню, і ты нагоніш прапушчанае. Можа нават яшчэ і спаборніцтва з чэмерцамі выйграем.

* * *

Сёньня на праўленьні стаяла адно пытаньне — прарыў на загатоўчым фронце. Разглядалі бязьдзейнасьць Ігната Кандратавіча. Ён усімі сіламі імкнуўся давесьці адваротнае, але з гэтага нічога ня выходзіла.

— Так можна да любога чалавека прычапіцца, прыпісаць яму віну, а вось скажэце, чым вы дапамагалі?

— Кожны нясе адказнасьць за сваю працу ў першую чаргу—не сказаў, а адсек старшыня праўленьня.

Таварыш Крэльскі доўга гаварыў аб праробленай працы, аб зробленай падрыхтоўцы да гэтае важнае кампаніі, даваў свае меркаваньні, апавядаў аб мэтадах загатоўкі. На першы погляд прадстаўніку цэнтру, высокаму, хударляваму чалавеку, якога старшыня паседжаньня назваў па прозьвішчу Халіпін, здавалася, што тут усё ў парадку, што справа ў Заямным ідзе, як ня трэба лепш.

І толькі пасьля, памаленьку, неўзаметкі пачаў разблытвацца клубок супярэчнасьцяй у працы Крэльскага.

— Я і тады казаў і цяпер кажу, што дадзеныя пляны выканаць можна толькі пры поўнай натужнасьці—агаварыўся пад канец Крэльскі.

— Пры той, якая ў цябе адсутнічае — заўважыў член праўленьня. Крэльскій глянуў у бок Верніка такім поглядам, як-бы нешта хацеў адказаць яму, а пасьля нібы, перадумаўшы, пакінуў адказ надалей, а сам працягваў:

— Ну што я магу зрабіць, калі Замасткі меліся прывезьці на станцыю бульбу заўчора, а не павезьлі.

— А як са збожжам?

— З жытам таксама ня зусім. Кажуць—няма намалочанага, і малаціць няма калі.

— А як ідзе выкананьне?

— Усяго па раёну выканана на... на...—тут таварыш Крэльскі пачаў шукаць у сваіх паперах агульную лічбу выкананьня, але не знаходзіў яе. Тады ён, доўга ня думаючы, сказаў наўздагад. Сказаў цьвёрда і рашуча:

— Усяго па раёну выканана загатоўка на 35 процантаў.

— Лоўка адбаярваешся—усьміхнуўшыся са спрытнасьці Ігната Кандратавіча заўважыў старшыня.

— Ніякае лоўкасьці. Кажу так, як ёсьць на справе.

— Чаму-ж у райвыканкоме і канцэлярыі праўленьня весткі гавораць другое?

— Гэта можа за апошнюю пяцідзёнку падцягнуліся? Па маіх лічбах выканана 35 процантаў, а калі цяпер сорак, дык значыць падцягнуліся.

Такі адказ Крэльскага даў штуршок Пазьняку сфармуляваць сваю думку аб адказнасьці працаўнікоў, якую ён паўтараў Ігнату Кандратавічу ідучы да хаты.

— Адстаеш ты ад тэмпаў!

— А цікавіўся ты прычынамі—чаму Замасткі ня прывезьлі бульбы?—пасыпаліся рэплікі і пытаньні.

— Ня меў часу.

— Вось гэта і шкода, што ты ня маеш часу—усьміхнуўся старшыня.

— Адзін чалавек ня можа быць адразу ў пяці мясцох.

— Калі трэба, то трэба быць і ў шасьці.

— Гэта ты такі спрытны будзеш таварыш Веркін.

— Гэта ня значыць, што ты павінен усюды сам дапяць, ты павінен

толькі быць у курсе справы, каб ведаць слабое месца свае працы, каб ведаць, куды кінуць сілы раёну, ці сельсавету на дапамогу, а яны ўсе ў тваім распараджэньні, — выказаў у спрэчках Пазьняк. От ты ня ведаеш, чаму ня прывезьлі на станцыю бульбы Замасткі, а мне сёньня ў краме казаў селянін прычыны.

— І мне казалі, я пытаў — кінуў рэпліку Крэльскі.

— А напэўна не пацікавіўся, хто падбіў іх на думку, што такою дарогаю нельга везьці, што зломаныя калёсы ня будзе чым паправіць.

Крэльскі маўчаў.

* * *

У Замасткох сарвалася па пляну загатоўка. На першы пачатак вінаватага не знаходзілі. Усе ў адзін голас гаварылі, што думка аб дрэннай дарозе вынікла ва ўсіх адразу. І толькі ўмелым падыходам выявілі процілеглае.

Крывіцкі Янук, якому трэба было здаць 250 пудоў бульбы, вечарам, перад заўтрашнім выездам, зайшоў да суседа пазычыць мяшкоў. Той перабіраў з сям'ёю бульбу на таку і не заўважыў, як сусед зьявіўся ў дзьвярах.

— Рыхтуецеся?—ня то спытаў, ня то канстатаваў факт Крывіцкі, а пасьля ўжо з пэўнаю вытрымкаю ў часе дадаў.

— Дзень добры, суседзе!

— Добрае здароўіца!

— А я, дык сам ня ведаю, што рабіць. Везьці такую далячыню ды такою дарогаю боязна. Што ты думаеш цяпер з калёсамі? Зломіш, дык набыць ня так лёгка.

— У вас яшчэ сяк-так, асьвяціся, як кажуць, а ў мяне, дык ліха яго ведае, што рабіць— і ў Сьцепанчука Тодара мільганула думка аб слабым заднім коле. На такі адказ суседа Крывіцкі адразу зьвярнуў увагу і падтрымаў далей гутарку.

— А я, ведаеш, сёньня гаварыў з Боркаўскім чалавекам, дык ён казаў, замучыліся, пакуль заехалі, а ім усяго дваццаць вёрст. Можа-ж ня будзе вечна ліць дождж, павінна і пагода быць. Мне засталося здаць дзьве сотні—адвязецца неяк яшчэ, павінны-ж дапамагчы хто сваю адвязе.

— Вам дзьве сотні, а мне от гэтыя дваццаць пудоў і ўсё.

— Што табе?—сорак пудоў. Ды і то ты шмат запісаў. Унь усе запісалі па 10-15 пудоў толькі.

— Не зьбядне, калі і сорак аддам.

— Дык яно-ж, от адвезьці толькі ніякавата, а гэта глупства.

— Аб гэтым трэба будзе пагаварыць.

Вечярам, калі пачынала шарэць, на небе ня было ніводнае хмары. Сям-там на вуліцы віднеліся грамадкі мужчын. Гаварылі аб заўтрашняй дарозе. Радзіліся, як лепей зрабіць, калі выгадней выехаць. Адны радзілі везьці нанач.

На золаку з Замасткоў ехала на станцыю тры хурманкі. Дваццаць пяць засталіся чакаць лепшае дарогі.

Крэльскі ў гэты дзень быў у процілеглым баку раёну. Ён быў упэўнены, што рэзалюцыя сходу ў Замастках будзе выканана, што старшыня сельсавету разам з членамі падштурхнуць справу. А гаварылася ў рэзалюцыі коратка: „У нядзелю 2 лістапада ўсім, як аднаму, выехаць з бульбаю, каб забясьпечыць адпраўку вагону, які будзе пададзены ў гэты дзень на станцыю“.

Вярнуўшыся, ён не пацікавіўся справаю ў Замастках—яго захапіла праца ў другіх пунктах, а гэта і дало другім вёскам повад узяць прыклад з Замасткоў...

У Заяменшчыне адказным за ўсю загатоўчую працу быў вызначаны Крэльскі. На яго ўскладаліся абавяз-

кі сачыць за ходам выкананьня. Дапамагалі яму ўсе працаўнікі адміністрацыйных і грамадзкіх арганізацый.

На Замастоцкім сходзе разам з другімі прадстаўнікамі раёну прысутнічаў Халіпін. Ён доўга гутарыў з беднякамі аб прычынах неадвозу бульбы і збожжа, разьбіраўся з іх довадамі, пытаў пра старшыню сельсавету.

Два дні працавала камісія, два дні падрыхтоўвалі глебу, а на трэці дзень пацягнуліся хурманкі з Замастоцкага сельсавету на станцыю. Завальваліся калёсы ў глыбокія калдобіны, апрыскваліся гразёю драбінкі на вазох. А з боку ішлі сяляне, курылі самарослы тутун, гутарылі аб дарэньнях.

* * *

Крэльскага і старшыню сельсавету абвінавачвалі ў самацёку працы. Яны ўпарта абараняліся, даводзілі сваю нявіноўнасьць другою працаю. Факты супярэчылі довадам, выпучваліся, заступалі дарогу, не давалі магчымасьці апраўдацца.

І толькі тады, калі ім стала відавочнай уся шкода ад прарываў у іх працы на грунце разьбежнасьці, на грунце бясплянавасьці, яны пашлі на „ўступкі".

— Трохі віна ёсьць і за намі — згадзіліся з неахвотаю.

Камісіі было даручана разгледзець справу, зрабіць належныя вывады.

Пра Крывіцкага пытаньне было пастаўлена асобна.

**Каапэрацыйная грамадзкасьць павінна актыўна удзельнічаць у перавыбарах саветаў.**

# На мясцох

Д. Я.

## Як каму... толькі няроўна

У вёсцы Мармарычы, Азарыцкага раёну ёсьць аддзяленьне Азарыцкай каапэрацыі, прыказчыкам якога зьяўляецца камсамолец Янка Дзянісаў, у сваёй працы Дзянісаў мае „лепшых" і „горшых", напрыклад: у гэтае каапэрацыйнае аддзяленьне прыслалі насавыя хустачкі для абмену на яйкі, а хустачкі раздаваліся прыказчыкам бяз ніякай загатоўкі некаторым „лепшым" асобам.

Асаблівую ўвагу Дзянісаў зьвяртае на абслугоўваньне знаёмых дзяўчат. Гэтым асобам, нават ня пайнікам, ён выдае тавары, якія прысланы для пайнікаў.

Загатоўку прадуктаў на тавары Дзянісаў вызначыў не для ўсіх роўна.

Пайнікі скардзяцца на такія адносіны Дзянісава.

К. А-сь

## З выхаваўчай працай маўчаць

У Даманавіцкай каапэрацыі Мазырскага раёну налічваецца да 500 пайнікаў, але для іх ня было склікана ніводнага сходу.

На працягу двух гадоў не абгаварваліся важныя палітычныя кампаніі.

Групы беднаты пры каапэрацыі няма, і праца з ёю не вядзецца. Праўленьне каапэрацыі не зьвяртае на гэта ўвагі.

У далейшым, асабліва з надыходам зімы, трэба на гэта зьвярнуць пільную ўвагу і разгарнуць працу.

А. К.

## У сталоўцы бруд

Пры Мазырскім спажтаварыстве МЦРК, па вуліцы Лібкнэхта, № 11, ёсьць сталоўка для рабочых. Пры ўваходзе ў гэтую сталоўку адразу ў вочы кідаюцца засьмечанасьць падлогі і сталоў, цесната і шум. Кожны раз у сталоўцы поўна сабак, якія адтуль ня выходзяць.

Бываюць выпадкі, калі страва падаецца з гатаванымі прусакамі. Нагул за гігіенай ў сталоўцы ня сочаць.

Старшыня спажтаварыства таварыш А. Турко на такія зьявішчы не рэагуе.

Праўленьне каапэрацыі і адміністрацыя сталоўкі, прымеце гэта пад увагу.



Птушнік у камуне „Сейбіт". (Узьдзенск р.).

А. Стойкі

## Трэба ўзварухнуцца

На пастанову 16-га зьезду ЎсеКП(б) аб усеагульным навучаньні і ліквідацыі няпісьменнасьці Бялыніцкае спажтаварыства зусім не зварочвае ўвагі, Па вёсках вучням не хапае сшыткаў, паперы і падручнікаў, а таварыства не паклапацілася аб тым, каб даставіць у свае аддзяленьні патрэбных прыладаў для забесьпячэньня імі пачатковых школ. Акрамя гэтага, Бялыніцкае спажтаварыства мала забясьпечвае газай хаты-чытальні, клюбы і настаўнікаў, з прычыны чаго кульгае работа. Трэба, нарэшце, Бялыніцкаму спажтаварыству дапамагаць у выкананьні пастаноў 16-га зьезду ЎсеКП(б) аб усеагульным навучаньні і найхутчэй зьнішчыць свае недахопы.

---

С. А.

## Недахопы нашае сталоўкі

Наша задача—удзяляць як мага больш увагі харчаваньню нашага пралетарскага студэнцтва, а, між іншым, у сталоўцы Магілеўскага Белпэдтэхнікуму пануе антысанітарнае становішча. Сталы пасьля ежы ніколі ня сьціраюцца і не прыбіраюцца. На сталох няма цыратаў, у выніку чаго сталы скора пэцкаюцца. Тут-жа валяюцца кавалкі хлеба ў паразьліванай страве, і гэтага тэхнічкі не стараюцца своячасова прыбіраць і сьціраць.

У сталоўцы не ўстаноўлены пэўныя гадзіны для студэнтаў інстытуту, пэдтэхнікуму і пэдкурсаў, у выніку чаго пры сталаваньні вялікая чарга, а ў сувязі з гэтым надзвычайная таўханіна, бо памяшканьне сталоўкі вельмі цеснае: прыходзіцца атрыманую страву есьці стоячы, або несьці праз калідор у другі пакой, а ў калідоры з-за таўханіны нават нельга пранесьці абеду.

Студэнты нездаволены працай афіцыянтак, бо апошнія ня ўсім роўна даюць абеды, сьнеданьне і вячэру. Нядаўна прыехаўшаму курсанту, або студэнту 1-га курсу тэхнікуму яны даюць заўсёды менш нормы.

Адміністрацыя сталоўкі, як відаць, уборачнай кампаніі зусім не ўдзяляла ўвагі, бо калі курсанты аднагадовых пэдкурсаў прыехалі з уборачнай кампаніі, дык ім цэлы дзень не давалі ежы, сказаўшы, што на апошніх яны не закуплялі прадуктаў і не гатавалі.



Перабіраюць яблыкі. (Камуна „Сейбіт“).

Трэба прафкому і адміністрацыі сталоўкі ўлічыць гэтыя недахопы і агульнымі сіламі іх зьнішчыць, каб у далейшым яны не паўтараліся пры сталаваньні пралетарскага студэнцтва.

# Хроніка

● 10 лістапада ў Менску адчынілася новае гукавое кіно „Чырвоная Зорка". Па свайму абсталяваньню і ёмістасьці „Чырвоная Зорка" зьяўляецца адным з найбольшых кіно ў СССР. Кіно „Чырвоная Зорка" штодзённа дае чатыры сэансы. Прапускная здольнасьць кіно ў сярэднім—4000 асоб у адзін вечар. Кіно „Чырвоная Зорка" зьяўляецца вялікім дасягненьнем працоўных БССР на культурным фронце.

● У Магілеве пушчана нанова абсталяваная фабрыка штучнага валакна. Фабрыка дае зусім добрай якасьці валакно для тонкіх тканін.

● НК РСІ зрабіў праверку наяўнасьці прамтавараў па сыстэме спажкаапэрацыі і ЦРК. Высьветлілася, што ў распараджэньні сыстэмы ёсьць прамтавараў на суму 30 мільёнаў рублёў, з іх на 12,8 млн. у цэрабкоопах і на 17,2 млн. руб. у раённых спажтаварыствах. Агабліва выявіліся вялікія запасы гатовай вопраткі на суму 4,3 млн. руб., кандытарскіх вырабаў па гарадох—на 1,3 млн. руб., папярос па гарадох—на суму 420.000 руб., трыкатажных вырабаў—на суму 445.000 рублеў, скураных тавараў і галёш—на 1,1 млн. руб. РСІ кваліфікавала гэтыя ганебныя факты ня толькі як галавацяпства, а і як хаотычнасьць і злачынства з боку паасобных кіраўнікоў каапэрацыі, якія штучна пашыраюць рамкі дэфіцытнасьці роду тавараў, ствараюць малатавар'е там, дзе яго няма, і тым самым дзейнічаюць на руку клясаваму ворагу.

● Прэзыдыум Віцебскага гарсавету пастанавў пабудаваць у гор. Віцебску другі хлебазавод. Таксама ў будучым будаўнічым сэзоне пачнецца пабудова фабрыкі-кухні. Для гэтых мэтаў ужо адведзены вучастак зямлі.

● З мэтай разгрузкі гор. Менску прэзыдыум гарсавету пастанавіў перавесьці ў іншыя гарады БССР наступныя гандлёвыя ўстановы: магазын Груздзяржсьпірту, Беларускую кантору крэдытбюро, Менскае аддзяленьне Гумтрэсту, беларускія аддзяленьні Лесахэму, Саюзшклофарфару, Укрлесу і Севкавторга, канторы ўпаўнаважаных: Паперсындыкату, Саюзстрою, Усекапрому, Дзяржмэтру і Запалкавы сындыкат, заходнюю кантору машынааб'яднаньня, прадстаўніцтва Мясгандлю, Беларускую кантору „ТЭЖЭ" і Зах. кантору аб'яднаньня.

● У мэтах выкананьня пастаноў Кастрычніцкага пленуму ЦК КП(б)Б аб рашучым узмацненьні работы ў галіне беларусізацыі партыйнага, савецкага, прафэсіянальнага і гаспадарча-каапэрацыйнага апаратаў, ЦК вынес пастанову правесьці з першага сьнежня 1930 г. па першае студзеня 1931 году месячнік праверкі стану беларусізацыі і абслугоўваньня працоўных нацменшасьцяй на родных мовах з боку гэтых апаратаў. Асноўная мэта месячніку—растлумачыць працоўным масам аб задачах і мэтах Ленінскай нацпалітыкі КП(б)Б.

● У лістападзе м-цы распушчана праўленьне МЦРК. Асноўная прычына роспуску праўленьня МЦРК тая, што праўленьне ня справілася з задачамі, высунутымі ростам сацбудаўніцтва. Праўленьне МЦРК размяркоўвала па крамах тавары бяз усякага клясавага падыходу, з боку праўленьня нагляд.аліся нядбайнасьць да пытаньня грамадзкага харчаваньня і няўважлівыя адносіны да прапаноў рабочых па розных пытаньнях.

● У мэтах рацыяналізацыі і разьвіцьця яечна-птушачнай гаспадаркі, Эканомнарада вынесла пастанову аб арганізацыі пры Наркамгандлю дзяржаб'яднаньня пад назвай „Белптушкапрадукт".

● У Маскве адбываецца пралетарскі суд над агентамі сусьветнага капіталу—(„прампартыяй"), якія вялі ўнутры краіны СССР падрыхтоўчую працу да вайны супроць СССР. На лаве падсудных знаходзяцца, галоўным чынам, старыя інжынэры-прафэсары, якія працавалі ў нашых установах і трымалі цесную сувязь з кіруючымі коламі капіталістычных краін.

# Бібліаграфія

**Парадак арганізацыі машына-конных станцый у калгасах БССР. „Белкалгасцэнтр"—БдзВ. Менск. 1930 г.** *Цана 10 кап. Стар. 48.*

Ня прыходзіцца гаварыць аб тэй карысьці і палітычна-арганізацыйнай ролі, якую адыгралі машына-конныя станцыі ў галіне калектывізацыі сельскае гаспадаркі і ўзьняцьця яе інтэнсыфікацыі.

Рэцэнзуемая кніжка зьяўляецца настольнай кнігай для калгасу і для кожнае машына-коннай станцыі. Кніга каштоўна ня толькі тым, што дае арганізацыйныя парады ў сэнсе тэхнічнай арганізацыі, але і тым, што гэта ўвязваецца з агранамічнымі парадамі і палітычнымі задачамі, якія стаяць перад коннай станцыяй.

Часта бывае, што нашы машынныя станцыі ў арганізацыйнай працы блытаюцца, пры адсутнасьці практычнага вопыту. Кніжка ў гэтай справе можа дапамагчы. У ёй зьмешчана шмат практычнага матар'ялу. ёсьць шэраг розных табліц і апісаньне інвэнтару станцыі, а таксама даны парады, як найлепш арганізаваць працу.

Напісана кніжка зразумелай мовай і будзе каштоўна сваімі парадамі па арганізацыі працы машына-конных станцый.

---

**Селескереди. Контрактация в озимую кампанию. Книгасаюз. 1930 г.** *Цана 7 кап. 30 стар.*

Няма тэй вёскі і селяніна-калгасьніка, бедняка і серадняка некалгасьніка, які-б ня ведаў цяпер аб кантрактацыі, аб яе мераприемствах, выгадах і іншае. Але гэта звычайна ведаюць толькі з практыкі. Часамі кантрактацыя праводзіцца наскокам, і бываюць у гэтым пытаньні памылкі.

Літаратуры па гэтаму пытаньню мала, а калі і ёсьць, дык пра вясновую і васеньнюю кампанію, а пра зімовую кантрактацыю. якая мае сваю спэцыфічнасьць, менш.

Кніжка Сэлескерэдзі зьяўляецца па гэтым пытаньні папулярнай і даступнай для кожнага селяніна калгасніка і некалгасьніка.

Дадатны бок яе зьмяшчаецца яшчэ ў тым, што яна дае парады па кантрактацыі ў індывідуальнай сельскай гаспадарцы беднякоў і серадзнякоў, а ня толькі ў калгасах, бо ў некаторых таварышоў склалася думка праводзіць кантрактацыю толькі ў калектыўных гаспадарках.

У брашуры падкрэсьлены памылкі, зробленыя ў часе вясновай кантрактацыі. Дапролі значнае месца адведзена ў кніжцы і для нац. рэспублік, у тым ліку і БССР.

Кнігу можна раіць для працаўнікоў, якія будуць праводзіць гэтую кампанію, і для тых, хто будзе закантрактоўвацца.

**Л. Чыж.**

---

**В. А. Гуськов—Пути обобществления животноводства. Масква, Дзяржвыдавецтва. 1930 г. Ст. 64.** *Цана 11 кап.*

З пункту гледжаньня неабходнасьці арганізацыі і разьвіцьця буйнай жывёлагадоўлі, што зьяўляецца аднэй з галоўных задач сёньняшняга дню, брашура В. А. Гуськова мае значную каштоўнасьць. Яна зьмяшчае ў сабе цэлы шэраг практычных парад, якія неабходна ведаць перш за ўсё арганізатарам і працаўнікам у галіне жывёлагадоўлі, а таксама і кожнаму калгасьніку і рабочаму саўгасаў з тым, каб выкарыстаць гэтыя парады ў сваёй працы. Да іх належаць пададзеныя ў простай і папулярнай мове такія моманты, як высьвятленьне пераваг буйнае жывёлагадоўлі, а таксама і таго, якім чынам лепш арганізаваць гэтую жывёлагадоўлю, як забясьпечыць буйную гаспадарку кармамі, як трэба даглядаць жывёлу, як падыйсьці да арганізацыі паасобных галін буйнай жывёлагадоўчай гаспадаркі, зрэшты, дасканала высьвятляе значэньне ў гэтай справе зоомінімуму і інш.

Апрача гэтага, выкладаньне больш значных і галоўных момантаў ілюстравана адпаведнымі малюнкамі, што робіць кніжку яшчэ больш карыснай.

Кніжка разьлічана на масавага чытача, і, выходзячы з яе памеру, трэба сказаць, вельмі танная. З гэтае прычыны яе неабходна мець у кожнай сялянскай бібліятэцы, хаце-чытальні, клюбе і г. д.

**А. Х—аў.**

---

*Рэдакцыйная калегія—Рэдактар* Гінзбург
*Выдавец*—Белкаапсаюз і Белсампрамсаюз